# БЕЛАРУСКІ

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

ў АМЭРЫЦЫ



BELARUSIAN DIGEST

# ДАЙДЖЭСТ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 3(62) Сакавік 1999 March Год выд. 7.




## 25-га Сакавіка 1918 г.
## Рада БНР
## 3-ай Устаўной Граматай абвясьціла Беларусь вольнай і незалежнай дзяржавай...

## Жыве Беларусь!!!



*Сяргей ПАНІЗЬНІК*

### СЬЦЯГ

Сьветлым полем я нясу
агнявую паласу:
як маланка, нада мной
зіхаціць над галавой
сьцяг мой вольны,
сьцяг мой сьмелы,
сьцяг мой бел-чырвона-белы.

Быў адважны продак мой
у пагоні баявой.
Той пагоні чую звон:
хай нясецца наўздагон
сьцяг мой вольны,
сьцяг мой сьмелы,
сьцяг мой бел-чырвона-белы.

Залунай на ўвесь прасьцяг,
агнявых вякоў працяг:
ёсьць Дзяржава, ёсьць Народ!
Разьвівайся — і ў палёт,
сьцяг мой вольны,
сьцяг мой сьмелы,
сьцяг мой бел-чырвона-белы!




*Артур ВОЛЬСКІ*




То ялінкі,
То сасонкі
Падпіраюць небакрай...
Прыгажэйшае старонкі
Не знайсьці, як ні шукай.

Скачуць сонейка асколкі
Пасьля дождджыку ў вадзе.
Весялейшае вясёлкі
Не пабачыш анідзе.

Пахне збожжа сьвежым хлебам,
Сыпле золата жніво.
Жаўрукі зьвіняць пад небам —
Славяць сьвету харaство.

На бярозе — белы бусел,
Пад бярозаю — ручай.
А завецца
БЕЛАРУСЬСЮ
Непаўторны родны край.



**Спадар Янка ХАНЕНКА — старшыня БАЗА ў Кліўлендзе, ЗША., ведамы і дзейны беларускі грамадзка-культурны і палітычны дзеяч, вялікі патрыёт свайго народу.**

**Дарагі Янка! Вітаем Цябе на старонках нашае незалежнае газэты.**



**Малітва**



Магутны Божа! Ўладар сусьветаў,
вялізных сонцаў і сэрц малых,
над Беларусяй ціхой і ветлай
рассып праменьня свае хвалы.
Дай спор у працы будзённай, шэрай
на хлеб штодзённы, на родны край.
Павагу, сілу і веліч веры
у нашу праўду, у прышласьць – дай!
Дай урадлівасьць жытнёвым нівам,
учынкам нашым пайшлі ўмалот.
Зрабі свабоднай, зрабі шчаслівай
краіну нашу і наш народ.

*Натальля Арсеньнева*

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108;—Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

Расьціслаў ЗАВІСТОВІЧ (ЗША.)

# 81-я ЎГОДКІ АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ



У гэтым годзе беларуская грамадзкасьць адзначае 81-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці 25-га Сакавіка 1918 году. Адраджэньне незалежнасьці Беларусі было і назаўсёды застанецца нашым найвялікшым нацыянальным сьвятам — сьвятам волі нашага народу, сьвятам перамогі дабра над злом, сьвятам ушанаваньня памяці адважных паплечнікаў Каліноўскага, ідэйных сыноў Купалы, Коласа, Багдановіча, беларускіх патрыётаў-нацдэмаўцаў. Ня вытрымаўшы варожага наступу, Беларусь згубіла сваю свабоду. Гісторыя паўтараецца. Сёньня чужынцы зноў кіруюць нашай Бацькаўшчынай.

Амаль два гады таму народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч пісаў наступныя прачулыя словы звароту да свае Бацькаўшчыны:

О, краю мой! Тваёй душы вымоўнай
Зноў зычыць лёс — замоўкнуць і зьнямець.
І зноў твой сын пытае малітоўна
"За што?" І зноў ня можа зразумець.
Ён ведае, што гэта ўсё нячыста
І не па-людзку... А з каго спытаць?
З каго спытаць за дзікае злачынства?
За зьдзек такі, што сэрцу не стрываць?

Пасьля Другой сусьветнай вайны савецка-расейская палітыка ў адносінах да нацыянальнасьцяў у Савецкім саюзе была накіравана да стварэньня савецкага расейскага чалавека. Русыфікацыя была агарнула ўсе сфэры жыцьця ў Беларусі. Украінізаваўшы ў беларускіх школах, яна зрабіла найвялікшае зло ў галіне беларускае асьветы. Яна паўсюдна прывівала нянавісьць да ўсяго беларускага, падрывала падмурак беларускага нацыянальнага выхаваньня, тварыла духовую абыякавасьць і нацыянальнае адмаўленьне. У той час, як у Расейскай імпэрыі актыўна заахвочваўся і падтрымоўваўся дзяржаваю расейскі нацыяналізм, у Беларусі душылася разуменьне нацыянальнай годнасьці, людзей ператваралі ў манэкіны, атрымоўваючы неадукаванае ў нацыянальных адносінах насельніцтва, людзей прыгнечаных і разьбітых, якія безадгаворачна падпарадкоўваліся кожнаму савецка-расейскаму конюху. Савецка-расейская сыстэма забіла Бога, забіла беларускую дзяржаўнасьць, беларускую нацыянальнасьць, забіла беларускую грамадзкасьць, забіла сям'ю, забіла чалавека. Вынікам усяго гэтага ёсьць сёньняшняя саветызацыя на нашай Бацькаўшчыне. Народ наш так парабску запалоханы, нагэтулькі маладушны, што ён баіцца выказаць сваю думку, не адважваецца ганіць учынкі сваіх ворагаў. Гэта ўсё выкарыстоўваецца адным з найбольшых ворагаў беларушчыны — Аляксандрам Лукашэнкам і ягоным савецка-расейскім атачэньнем.

25га сьнежня мінулага году Лукашэнка з прэзыдэнтам Расеі Барысам Ельцынам падпісалі пагадненьне пра ўтварэньне новага саюзу Беларусі з Расеяй. Згодна з гэтым пагадненьнем, ужо ў сярэдзіне гэтага лета будуць уведзены агульныя грошы, будзе створана агульная грашова-крэдытная сыстэма, мытная сыстэма, транспартная сыстэма. І нягледзечы на ўсе гэтыя зьмены, Беларусь і Расея, паводле пагадненьня, застануцца сувэрэннымі дзяржавамі. Як гэта ўсё можа зрабіцца ведаюць толькі Ельцын ды Лукашэнка. Для аплаты агульных беларуска-расейскіх праектаў Расея будзе даваць 65% усіх грошай, а Беларусь 35%. Вось якая прапорцыя! Нават і тут, гэтак бесоромна, па-эксплуататарску паводзіць сябе краіна, якая насельніцтвам амаль у 15 разоў большая, чым Беларусь. Дарэчы, у мінулым 1998 годзе Расея заплаціла ўсяго толькі 27% свае часткі саюзных выдаткаў, а Беларусь, як і трэба было чакаць ад зацятага інтэгратара Лукашэнкі — 90%.

Праз тыдзень пасьля падпісаньня пагадненьня, 1-га студзеня гэтага году, газэта "Народная воля" надрукавала адчынены ліст да прэзыдэнта Ельцына, падпісаны Сымонам Шарэцкім, Мечыславам Грыбам і Станіславам Шушкевічам, старшынямі беларускага парлямэнту розных гадоў. Выступаючы супраць ельцынска-лукашэнкаўскага пагадненьня, яны, сярод іншага, пісалі наступнае:

"Нельга не разумець, што ўсякія зьмены дзяржаўнага статусу Рэспублікі Беларусь, якія спрабуе ажыцьцявіць канчаткова збанкрутаваны рэжым Лукашэнкі, ня могуць лічыцца легітымнымі, паколькі гэты рэжым згубіў сваю законнасьць пасьля лістападаўскага дзяржаўнага перавароту 1996 году, выкананага пры падтрымцы Чарнамордзіна, Строева і Селязьнёва. Практыкаваныя зьмены дзяржаўнага статусу Рэспублікі Беларусь пярэчаць дзеючай Канстытуцыі 1994 году і мы беларусы будзем разглядаць іх як акупацыю Беларусі Расеяй. Думаецца, што і міжнародная рэакцыя будзе адпаведнай дзеяньням Расеі. Акупаваўшы Беларусь, Вы зробіце тое, што зрбіў Сталін з Літвой, Латвіяй і Эстоніяй і пасееце ў Беларусі зерне варожасьці да народу, які мае ўсе падставы і надалей заставаца прыязным, а сам віртуальны "саюз" прысьпешыць ланцуговую рэакцыю ў расейскіх рэгіёнах наконт зьмены іхнага дзяржаўнага статусу".

Ці была якая-колечы рэакцыя прэзыдэнта Расеі альбо расейскага ўраду на адчынены ліст? — невядома. Думаецца, што ніякае рэакцыі не было і ня будзе. У Расеі ня толькі прэзыдэнт і ягоны ўрад, але ўся расейская сацыяльна-палітычная эліта адчынена не пакідаюць сваіх варожых адносінаў да беларускае незалежнасьці і да існаваньня нашага народу, як асобнае нацыі. Гэтую варожасьць маюць і вольна выказваюць усе партыйныя і беспартыйныя групоўкі, пачынаючы ад учарашніх і сёньняшніх камуністаў і канчаючы гэтак званымі лібераламі-дэмакратамі. Цікава, што гэтыя апошнія, а гэта ўсякія там гайдары, чубайсы, нямцовы, кірыенкі, якаўлевы трымаюцца яшчэ нават больш жорсткае лініі ў адносінах да беларуска-расейскае інтэграцыі. На сваім спатканьні ў мінулым студзені яны, крытыкуючы ельцынска-лукашэнкаўскае пагадненьне, адчынена гаварылі пра далучэньне Беларусі да Расейскай Федэрацыі без ніякіх спэцыяльных тлумачэньняў наконт сувэрэннага статусу Беларусі. Гэтыя палітыкі баяцца, што пакідаючы Беларусі статус незалежнае дзяржавы, яны створаць новыя непажаданыя для сябе абставіны, пры якіх іншыя нацыянальныя рэспублікі ў складзе Расейскай Федэрацыі будуць дамагацца статусу сувэрэннасьці. У выніку гэтага паўстане вялізная пагроза існаваньню іхнае федэрацыі.

Вось такія агрэсыўныя пляны будуюць прадстаўнікі расейскіх групаў, якія безсаромна называюць сябе дэмакратамі. Яны ня толькі не адмаўляюцца ад захопу нашае Бацькаўшчыны і ўлучэньню яе ў новую імпэрыю, але і намагаюцца прысьпешыць гэты працэс, гаворачы пра наступныя тры выгады, якія будзе мець Расея ад захопу Беларусі:

1. Павялічыцца расейскі гандлёвы рынак;
2. Кантроль над газавым і нафтавым трубаправодамі пяройдзе ў расейскія рукі;
3. Зноў пасунецца на Захад расейская дзяржаўная мяжа да стыку з краінамі цэнтральнай Эўропы.

Карысьць для Беларусі, згодна з плянамі гэтых палітыкаў, будзе ў тым, што ў Беларусі будзе аднаўлена свабода і дэмакратыя. Акупанты зноў, ужо ў каторы раз, хочуць "падаць руку свабоды" нашай Бацькаўшчыне.

З апошніх спатканьняў у Вашынгтоне з прадстаўнікамі апазыцыі лукашэнкаўскаму рэжыму, аўтару гэтых радкоў робіцца такое ўражаньне, што яны, нашыя беларускія апазыцыянеры, ня вераць у саюз Беларусі і Расеі, называючы апошняе ельцынска-лукашэнкаўскае пагадненьне палітычным тэатрам. Яны думаюць, што цяжкія эканамічныя ўмовы прымушаюць Ельцына і Лукашэнку ствараць, праз палітычны тэатр, бачнасьць сваее дзейнасьці, якая нібыта прывядзе да палепшаньня эканомікі і выхаду з бязладзьдзя. З гэтага палёгка для Беларусі толькі ў тым, што яе яшчэ афіцыйна покуль не называюць расейскай правінцыяй, хоць высісканьне ўсяго беларускага ў краіне прадоўжваецца. Лукашэнка ня бачыць таго, што ягоная камуністычная сыстэма гаспадаркі давяла Беларусь да парогу эканамічнае руіны.

Доктар эканамічных навук Уладзімер Кулажанка нядаўна пісаў ("Народная воля", 26-га студзеня 1999 г.), што колькасьць стратных калгасаў і саўгасаў павялічылася ад 363-х у 1997 годзе да 639 у мінулым годзе. Недабор збожжа ў 1998 годзе ў параўнаньні з 1997 годам склалае 2 мільёны тон, а прэзыдэнт Беларусі, учапіўшыся за свой "рынкавы сацыялізм", пра эканамічныя рэформы і ня думае.

У Ельцына, другога беларуска-расейскага інтэгратара, эканамічныя справы не нашмат лепшыя. Там таксама ня могуць пазбыцца камуністычнага багажу.

Увесь сьвет ведае, як была зьнішчана эканоміка Японіі і Нямеччыны падчас Другое сусьветнае вайны. Нямецкія гарады, уключаючы ўсе фабрыкі і заводы, не стаялі, а ляжалі. А пасьля вайны, некалі дашчэнту разьбітая Нямеччына, пачала даваць эканамічную дапамогу Расеі — краіне-пераможцу, бальшыня вялікіх фабрыкаў і заводаў якой не было зруйнавана, а вывезена ў Сібір і Казахстан. Расея з яе вялікімі запасамі карысных выкапняў ад газу, да жалезнае руды, да нафты і золата, якіх у Японіі і Нямеччыне не было і няма, стаіць фігуральна кажучы, з выцягнутаю па-жабрацку рукою, просячы дапамогі. Вось вынік камуністычнае безгаспадарлівасьці і развалу! І ад гэтага ўсё яшчэ ня могуць адмовіцца расейскія лідэры і прэзыдэнт Беларусі.

Лукашэнкаўскія выказваньні пра эканоміку моцна пераклікаюцца з ягонымі грубымі павучэньнямі пра беларускую мову. Ён калісьці казаў, што беларуская мова нагэтулькі бедная, што ёю нельга выказаць нешта вялікае. Так і хочацца запытацца, што-ж ён і калі сказаў такое вялікае, якога было-б немагчыма сказаць па-беларуску? Расейскі мат, прынесены акупантамі ў Беларусь, так і не перакладзены ў беларускую мову. Калі хто з нашых словаблудаў карыстаецца ім, дык толькі ў мове арыгіналу. Магчыма гэта і ёсьць тое лукашэнкаўскае "вялікае", для якога нашаму "мовазнаўцу" не хапае звычаяў у Беларусі і словаў у беларускай мове.

Перагляданючы беларускую гісторыю, асабліва гісторыю незалежнасьці апошніх гадоў, хочацца ўсё-ж верыць, што беларускі народ і на гэты раз вытрымае наступ ворагаў. Беларусы ў мінулым аддавалі сваё жыцьцё за волю, за дзяржаўную незалежнасьць. Нашая вызвольная барацьба — паўстаньне Кастуся Каліноўскага, вызвольная барацьба Случчыны, геройскае змаганьне ў Веліжы — будзяць Беларусь. Да тых, хто вагаецца і ня ведае "з каго спытаць", хочацца зноў зьвярнуцца словамі нашага Н. Гілевіча:

О, краю мой, скажы сваім ты сыну,
Што ў нас, гадоў таму сто трыццаць пяць,
У невымерна цяжкую часіну,
Яго прапрадзед знаў з каго спытаць.

# БЕЛАРУСКАЯ АПАЗЫЦЫЯ ЗАСНАВАЛА КААРДЫНАЦЫЙНУЮ РАДУ

Згодна рэзалюцыі нядаўна прынятай на Кангрэсе дэмакратычных сілаў, беларуская апазыцыя сфармавала кансультатыўную і каардынацыйную Раду ўсіх дэмакратычных сілаў дзеля цеснага яднаньня ўсіх дэмакратычных апазыцыйных арганізацыяў.

У Раду ўвайшлі прадстаўнікі 6-ці найбольш уплывовых апазыцыйных арганізацыяў, як БНФ, Злучаная грамадзянская партыя, Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя "Народная Грамада", «Хартыя - 97» ды іншыя.

Мікола МАТУКОЎСКІ (Менск)

# ЧАМУ БЕЛАРУСЫ ТАКІЯ САМАЕДЫ?

Гэтая загадка не дае мне спакою шмат гадоў, з таго часу, як стаўшы журналістам, потым драматургам, я стаў глыбей, сур'ёзьней задумвацца над чалавечымі лёсамі, над праблемамі і канфліктамі, над усім тым, што мы называем адным словам — жыцьцё.

Я аб'ехаў шмат краінаў Эўропы, Азіі і Афрыкі, ня кажучы ўжо пра былыя рэспублікі СССР. З нейкім асаблівым пачуцьцём заўсёды ехаў у Арменію, Грузію, Летуву, Латвію, Эстонію. Там мяне заўсёды ўражвала незвычайная добразычлівасьць у адносінах да сваіх суайчыньнікаў, гатоўнасьць у любы момант кінуцца на дапамогу блізкаму чалавеку. А з якім захапленьнем казалі яны пра сваіх пісьменьнікаў, кампазытараў, мастакоў, артыстаў!

Асабліва востра я адчуў гэта ў латвійскім горадзе Валміера, куды прыехаў у тэатр імя Леаса Паэгле на прэм'еру сваёй "Амністыі". З якой любоўю, з якім душэўным парываньнем абдымалі гледачы актораў, падносілі ім кошыкі і букеты кветак, як падкідалі да столі галоўнага рэжысэра Петэрса Лукіса, які паставіў спектакль. На сцэне і ў залі былі тады родныя браты, сыны адной маці — такое адчуваньне ўзьнікала тады ў мяне.

Уначы на кватэры Петэрса Лукіса я нямог не загаварыць пра гэта, пра любоў народу да сваіх "зорак". — А як-жа іначай? — зьдзівіўся Петэрс. — Гэтыя "зоркі" — галоўнейшы скарб нашай дзяржавы. Яны ня толькі ўпрыгожваюць, але і вызначаюць твар нашай нацыі, выводзяць яе ў сьвет, надаюць ёй агульначалавечы маштаб, робяць нас роўнымі з вялікімі народамі. Каб не яны, хто-б ведаў, што недзе ў сьвеце існуе маленькая Латвія?..

Усю дарогу ад Валміера да Менска мяне не пакідала пакутлівая думка: чаму ў нас усё ня так, усё наадварот? Чаму ў нас ня любяць самых разумных і таленавітых? Чаму менавіта іх аддаюць на разарваньне натоўпу? (Што паробіш, акрамя вялікага і сьвятога паняцьця "народ" існуе яшчэ і паняцьце "натоўп").

## АКОПНАЯ ПРАЎДА

Хрэстаматыйным прыкладам ёсьць пакутніцкае жыцьцё Васіля Быкава, магчыма, аднаго з самых геніяльных беларусаў за ўсю гісторыю існаваньня нашай дзяржавы... Прадбачу зьдзеклівыя ўсьмешкі ягоных ганіцеляў: "Ну-ну, знайшоў пакутніка! Народны пісьменьнік! Лаўрэат Ленінскай прэміі! Герой сацыялістычнай працы! І раптам — пакутнік!" Так, праўда, — і герой, і лаўрэат, але калі ўсё гэта прыйшло да яго? Спачатку-ж была кашмарная валасяніца з калючага дроту.

Хто толькі не граміў яго! Асабліва гэнералы і палкоўнікі-штабісты. За што? За дзьве "віны". Першая: чаму ён адлюстроўвае толькі "акопную праўду"? (Па тым часе гэта было страшэнным абвінавачаньнем). А дзе маршалы, гэнералы, як у Сіманава, якія выйгралі вайну?.. Так, гэтым крытыкам былі нецікавыя пачуцьці і псыхалёгія "маленькага салдата", акоп якога прасуе нямецкі танк, ім давай маштабныя дзеяньні!.. Ён, хто прапоўз, як кажуць, усю вайну на жываце, хто вадзіў у атаку ўзвод аўтаматчыкаў, хто вёў сваімі "саракапяткамі" няспынную дуэль з нямецкімі танкамі, вінаваціўся ў... нinfведаньні вайны, у "ачарненьні" вайны, бо назваў яе "бруднай працай", а не прасторай для воінскіх подзьвігаў...

Другая "віна": чаму ён у кожным сваім творы выводзіць здрадніка? Хіба ў нас было іх так многа? Каб іх было многа — не было-б 9 мая 1945 года. Нават першыя, самыя бязкрыўдныя аповесьці і апавяданьні, пазначаныя ўжо вялікім талентам, былі сустрэты зьнішчальным залпам з адной беларускай газэты: "Героі ці ахвяры лёсу?" Пра драматычную гісторыю выданьня яго аповесьці "Мёртвым не баліць", лепей не ўспамінаць.

Чамусьці ніхто не задумваўся, што пісьменьнік узяўся, магчыма, за самую няўдзячную тэму — прыроду здрадніцтва. Адкуль яно ў нашым чалавеку, характару якога, здавалася-б, "супрацьпаказана" такая якасьць? Яму-б падзякаваць, што так глыбока капнуў літаратурную цаліну. Але кляймо "песьняра здраднікаў" вісела на ім яшчэ шмат гадоў. І сёньня яшчэ не-не ды і прагучыць гэты адгалосак з мінулага, асабліва ад вэтэранаў. Іначай я-б ня стаў прыгадваць гэтае мінулае. У ягонай гарадзенскай кватэры білі вокны. У школе цкавалі яго дзяцей, з выдавецкіх плянаў выкідалі рукапісы. І ён вымушаны быў аддаваць свае аповесьці ў маскоўскія рэдакцыі і выдавецтвы. Пасьля Масквы ўжо сьмялелі і нашыя.

Здавалася, усё рабілася дзеля таго, каб Быкаў альбо застрэліўся (і ён, як ён прызнаваўся, быў блізкі да гэтага), альбо зьехаў за мяжу. Каб можна было сказаць зларадна: "Вось, мы-ж казалі, што ў яго душы жыве здраднік!" Дзякуй Богу, ён не зрабіў ані таго, ані другога. Васіль Быкаў атрымаў ня толькі самыя высокія рэгаліі, стаў пісьменьнікам з сусьветным імем. І што? Зараз ён, пазбаўлены літаратурных ганарараў, жыве на мяжы жабрацтва, на адну сваю пэнсію. Якая нацыя дазволіла-б сабе такую ганьбу? Добра, што фінскія пісьменьнікі пашкадавалі яго і запрасілі да сябе на год на "поўны пансіён". Не мы пашкадавалі, а фіны! У нас няма сродкаў, каб вылучыць для пісьменьніка з сусьветным імем дзяржаўную стыпэндыю...

## ПАКРЫЎДЗІЦЬ ПАЭТА МОЖА КОЖНЫ

На вялікі жаль, і гэта зразумець нельга, біяграфія Васіля Быкава тыповая для многіх таленавітых людзей Беларусі. Мабыць, ніхто з беларускіх паэтаў за апошні час не атрымаў столькі абразаў і "аплявух" з боку афіцыйных інстанцыяў, колькі іх атрымалі Ніл Гілевіч і Генадзь Бураўкін.

Многія афіцыйныя дзеячы і друкаваныя органы іначай як нацыяналістам Ніла Гілевіча не называюць. Так, ён першы, як я помню, на ўвесь голас загаварыў пра любоў і павагу да роднай мовы, і аб працаўніках яе. Загаварыў не з падваротні, а адкрыта — з трыбуны, са старонак газэтаў і журналаў, з тэлеэкрана, пакуль яго туды яшчэ дапускалі. І адразу-ж на яго павесілі ярлык "нацыяналіста".

У запале палемікі апанэнты народнага паэта ня хочуць заўважыць, што Ніл Гілевіч выказаў усяго толькі элементарную, нават банальную ісьціну: калі існуе беларускі народ, значыць, павінна існаваць і беларуская мова, якую трэба і паважаць, і любіць, і вывучаць. Калі ўжо адмовіцца ад гэтай ісьціны, дык адначасова — давайце будзем да канца лягічнымі — трэба адмаўляць і наяўнасьць (альбо неправамоцнасьць існаваньня) беларускай дзяржавы і... беларускага прэзыдэнта. Адкуль яму быць, калі няма нацыі і дзяржавы? Вось і ўся "крамола", якую спавядае некалькі гадоў народны паэт. Дарэчы, у агні палемікі забыты і яго званьне, і яго паэтычны талент. І тое, што ён унікальны ўнівэрсытэцкі прафэсар, які выхаваў сотні вучняў.

Другому таленавітаму паэту — Генадзю Бураўкіну — наклеілі іншы ярлык: "перавертыш". Маўляў, пісаў вершы пра партыю, пра Леніна... а цяпер поўнасьцю адмовіўся ад камунізму, стаў апазыцыянерам і піша нешта зусім адваротнае. Так, усе мы ў свой час багатварылі і Леніна і камуністычную партыю... Мы сьвята верылі, а нас подла падманулі. Так у што сёньня верыць Генадзю Бураўкіну або Рыгору Барадуліну — у камуністычную хімеру, у якую ня вераць нават самі былыя партыйныя правадыры, альбо ў жахлівую праўду, што ня так даўно адкрылася нам?

## АМАРАЛЬНЫЯ ГІСТОРЫІ

Амаль тое-ж самае, што пра Васіля Быкава, можна сказаць пра аднаго з нашых найлепшых кампазытараў — пра Яўгена Глебава. Так, сёньня ён — народны артыст, лаўрэат, фігура, без якой нельга ўявіць сучасную беларускую музыку. Сымфаніст, мэладыст, аўтар некалькіх балетаў, опэраў, сымфоніяў, папулярных мэлёдыяў да многіх кінафільмаў і тэатральных сьпектакляў. І ўжо многія саромяцца прыгадваць, што гэта яго выключылі з Саюзу кампазытараў, наладжвалі ганебныя судзілішчы — праработкі. За што? А за тое, што таленавіты. Не, афіцыйна, вядома, яго ў гэтым не вінавацілі. Недзе камусьці сказаў нешта дзёрзка, ніколі не ламаў шапкі нават перад самым высокім начальствам, разьвёўся з адной жонкай, ажаніўся з другой. Значыць, амаралка, нельга такому выхоўваць студэнтаў. Адзін Бог ведае, колькі ён не напісаў добрай музыкі праз тое, што ўсё яго жыцьцё ператварылася ў суцэльны зьдзек над нервамі і душой. Гэта бясьследна ніколі не праходзіць. Здароўе Яўгена Глебава — у цяжкім становішчы, Ніл Гілевіч толькі што перанёс інфаркт, на мяжы інфаркту знаходзіцца і Генадзь Бураўкін.

Не магу не сказаць яшчэ пра аднаго ўнікальнага кампазытара і музыканта — пра Алега Янчанку. Калі ён прыязджае да нас з Масквы на гастролі — гэта заўсёды найбуйнейшая падзея ў культурным жыцьці Беларусі. А ён-жа быў нашым арганістам і кампазытарам, жыў і тварыў у Менску. Але яго груба, па-хамску выгналі. За тое, што ў рабочы час... пацалаваў дзяўчыну. "Дабразычліўцы", "ахоўнікі маральнасьці" падгледзелі ў замочную шчыліну. У літаральным сэньсе! А цяпер яго сустракаюць кошыкамі кветак і авацыямі. Цікава, што цяпер адчувае той Іуда, які сам глядзеў у замочную шчыліну і запрашаў іншых паглядзець, як цалуецца Алег Янчанка. Кажуць, што сапраўдны Іуда павесіўся: сумленьне замучыла. Наш, цяперашні, не адважыцца на такі праведны самасуд. Да таго-ж іх многа, яны ўчэпіста трымаюцца адзін за аднаго і непахісна вераць у сваю патрэбнасьць і карыснасьць.

Іначай наша нацыя стала-б "занадта" таленавітай...

## ЗЬБЯДНЕЛЫЯ

Сёньня ўвесь сьвет ведае і з захапленьнем слухае нашу непаўторную Марыю Гулегіну. Ня чуем толькі мы, таму што яна сьпявае ў Міланскай "Ля Скала", у Нью-Ёрскай "Мэтрапалітэн-опэры", у Лёнданскім Ковэт Гардэн, дзе яе прызналі лепшай Тоскай плянэты і падарылі сукенку, у якой выступала вялікая Марыя Калас. А з нашага тэатра яе выжылі. Ашаламляльнага посьпеху за мяжой дабілася Галіна Лукомская з яе дзіўным каляратурным сапрана, выпускнік нашай кансэрваторыі, двухмэтравы прыгажун з казачным басам Міхась Рысаў і яшчэ адзін выпускнік кансэрваторыі — Вячаслаў Полазаў.

А цяпер сумленна прызнаюся: я ня мог знайсьці адказу на пытаньне, што паставіў у загаловак артыкулу. Людзі! Давайце на хвіліну забудзем пра свае штодзённыя цяжкія клопаты і разам задумаемся, чаму мы, беларусы, усё-ж такія самаеды? Чаму ня бягуць таленты з Арменіі, Грузіі, краін Балтыі? Ніхто-ж ня будзе сьцьвярджаць, што тамашнія таленты з крыламі анёлаў. Але-ж знаходзяцца там і сілы і сродкі, каб ня даць ім адляцець з роднае зямлі!

Зноў прыгадваю тую райскую атмасфэру, якую я адчуў тады ў латвійскім горадзе Валміера, у тэатры імя Леаса Паэгле. Чаму яны могуць стварыць такую атмасфэру ўсеагульнай роднасьці, а мы не?

...Працуючы над гэтым артыкулам, я, здаецца, лепей зразумеў, за што людзі расьпялі Хрыста. Ён ведаў, умеў і мог болей за іншых. І да таго-ж ён клікаў іх на неба, а яны крочылі па зямлі, як Варава. Варава быў ім бліжэйшы, яны яго лепей разумелі. Таму яны пашкадавалі яго, а не Хрыста. Няўжо людзі і сёньня, як у часіны Хрыста, ня церпяць маральнай перавагі? Але чаму церпяць у тых краінах, якія я толькі што назваў? Хто, калі і за што паклаў на нас, беларусаў, чорнае закляцьце і зрабіў нас "сваякамі" Варавы?

## Беларускі Судзьдзя просіць палітычнага прытулку ў Нямеччыне

Судзьдзя Юрка Сушкоў з Бабруйску папрасіў палітычнага прытулку ў Нямеччыне. Нядаўна ён сказаў, што быць справядлівым судзьдзёю ў цяперашняй лукашэнкаўскай Беларусі амаль немагчыма. Судзьдзяў усякімі спосабамі прымушаюць выносіць несправядлівыя прыгаворы не зважаючы на доказы. Ён таксама зазначыў, што доказы віны дабываюцца няраз насільлем і тартурамі...

## Аляксей Шыдлоўскі на волі...

Ён мужна адбыў палітычнае турэмнае зьняволеньне на працягу 18 месяцаў. Засудзілі яго за анты-прэзыдэнцкія напісы ў Стоўбцах.

Мы шчыра вітаем Аляксея Шыдлоўскага на волі, і жадаем яму ўсяго найлепшага ў жыцьці. Такіх адважных герояў, зрусыфікаваная Беларусь патрабуе больш і больш...

## Лукашэнка паказвае свой "кулак"?..

25-га лютага ў Маскве прэзыдэнт Беларусі спадар А. Лукашэнка заявіў, што "яго краіна" зрабіла вялікую памылку аддаючы Расеі атамную зброю. Ён хоча яе атрымаць назад... Таксама ён зазначыў, што атамная зброя ў Беларусі магла-б гарантаваць бясьпеку Расейска-Беларускага саюзу...

# Дэмакраты ўсёй Беларусі аб'ядноўваюцца

Як нам паведамляюць, 29 і 30 студзеня ў Менску адбыўся Кангрэс дэмакратычных сілаў Беларусі. Прынялі ў ім удзел каля 700 дэлегатаў ад беларускіх палітычных і грамадзкіх аб'яднаньняў.

На Кангрэсе выступілі вядомыя палітыкі, як Сямён Шарэцкі, Лявон Баршчэўскі, Генадзь Карпенка, Станіслаў Шушкевіч, Мікола Статкевіч, Станіслаў Багданкевіч і іншыя. Гаварылі яны пра катастрафічны стан беларускай эканомікі да якога давёў рэжым А. Лукашэнкі. Казалі пра наступ уладаў на дэмакратычныя інстытуты, пра пагрозу незалежнасьці краіны. Удзельнікаў Кангрэсу аб'ядноўвала перакананьне, што выйсьце з эканамічнага і палітычнага крызісу ў кансалідацыі ўсіх беларускіх дэмакратычных сілаў. Пра сур'ёзнасьць Кангрэсу сьведчыць факт зацікаўленасьці ім у сьвеце.

Прывітальныя тэлеграмы Кангрэсу прыслалі лідар польскай "Салідарнасьці", кіраўнік групы АБСЕ ў Менску і інш. Гасьцямі Кангрэсу былі дэпутаты летувіскага, украінскага і расейскага парлямэнтаў.

Удзельнікі Кангрэсу прынялі шэраг рэзалюцыяў, у тым ліку «Аб пагрозе дзяржаўнасьці і сувэрэнітэту Беларусі», «Пра неабгрунтаванасьць эканамічнай і сацыяльнай палітыкі прэзыдэнта і ўраду Беларусі», «Аб парушэньні правоў чалавека на Беларусі», «Пра дыскрымінацыю беларускае мовы на Беларусі».

Удзельнікі форуму прынялі зварот да ўрадаў заходніх краінаў з заклікам дамагчыся ад беларускага кіраўніцтва гарантыяў асабістай бясьпекі лідэру БНФ Зянону Пазьняку, у выпадку яго вяртаньня на радзіму.

А вечарам 30-га студзеня ў Менску адбыліся шматлюднае шэсьце і мітынг у падтрымку Кангрэсу дэмакратычных сілаў. Нягледзячы на моцны мароз на вуліцы Менску выйшла каля 15 тысяч чалавек. Гэта была адна з найбольшых масавых акцыяў беларускае апазыцыі за апошнія гады. Сутыкненьня з паліцыяй не было...

Ці нарэшце беларусы ўзяліся за розум і зразумелі, што ў аб'яднаньні сіла... Хочацца верыць, — што так.

## Мой родны кут




*Верш Якуба Коласа.*
*Музыка Ігара Лучанка.*

Мой родны кут,
як ты мне мілы...
Забыць цябе не маю сілы!
Не раз, утомлены дарогай,
Жыццём вясны мае убогай,
К табе я ў думках залятаю
І там душою спачываю,
І там душою спачываю.

Вось як цяпер, перада мною
ўстае куточак той прыгожа,
Крынічкі вузенькае ложа
І елка ў пары з хваіною,
Абняўшысь цесна
над вадою,

Як маладыя ў час кахання,
ў апошні вечар расставання.

Люблю цябе,
мой бераг родны,
Дзе льецца Нёман
срэбраводны,
Дубы дзе дружнай чарадою
Стаяць, як вежы, над вадою.
Мой родны кут,
як ты мне мілы,
Забыць цябе не маю сілы,
Забыць цябе не маю сілы.

# Ратуймася Купалам!

*У беларускім вольным краі,*
*З ярэмнай збрыўшы стараны,*
*Царыць чужынец, а ў паслугах*
*Хто?*
*— Беларускія сыны!*
*Над беларускай беднай хатай,*
*Як полка вырвана з труны,*
*Вісіць чужы сцяг, а трымае*
*Хто?*
*— Беларускія сыны!*

*Адкуль і хто яны, адменцы?*
*Няма у кнігах роду іх:*
*Імя іх толькі — адшчапенцы,*
*А гэта ведама й без кніг.*
*Народ ім харамы паставіў,*
*Раллю капаў для іх, як крот,*
*Яны ж чужой прадалі славе*
*Сваю зямлю і свой народ,*
*У звоне золата ўтапілі*
*Трухлявы душ сваіх абраз*
*І на прадзедавай магіле*
*Спраўляюць радасны папас.*

Гэта напісана вялікім Купалам у 1918, 19, 20, 25 і 26 гадах, 75—80 гадоў назад. А ўражанне такое, быццам напісана сёння нашым сучаснікам. І адрасаваны гэтыя радкі, "гэты крык, што жыве Беларусь", — нам, кожнаму з нас, сённяшніх беларусаў.

Сітуацыя ў нас сёння проста парадаксальная. Жывём быццам бы ў сваёй — па назве — дзяржаве, юрыдычна нават незалежнай, суверэннай, а на справе дык і зусім не ў беларускай. Беларушчына, як і цягам бясконца доўгіх гадоў перад гэтым, зноў у загоне. Асфальтавы каток русіфікацыі прасуе Беларусь бязлітасна. Нацыю, кажуць, стварае школа і царква. Якую ж нацыю стварае наша школа? Адказ адназначны — не беларускую. Беларускія дзеткі ў Мінску бароняць, як пчолкі вулей, свой адзіны ў сталіцы беларускай дзяржавы беларускі ліцэй. А пра царкву наогул гаварыць не выпадае. Каму сказаць пра гэта? Каму "несці печаль сваю"? Хто пачуе? Во — Вялікага Купалы не чуем!

Сем дзесяткаў гадоў хавалі Купалу ад народа. А ён жа бачыў, разумеў і спадзяваўся. У 1926 годзе, калі ў тагачаснай БССР нібыта сапраўды адбудоўваўся Беларускі Дом, ён з нясцерпным сардэчным болем пісаў:

*Ёсць яшчэ ў мяне сіла*
*Крыўдзе не дацца, змагацца,*
*Над спячых продкаў магілай*
*Вольна маланкай мігацца.*
*Ёсць яшчэ ў мяне сэрца,*
*Поўнае шчырых жаданняў,*
*Якое перш разарвецца,*
*Чымся любіць перастане.*
*Ёсць жа яшчэ ў мяне песень,*
*Поўных надзеі, жыцця, —*
*Як бы ні быў ім свет цесен,*
*Вырвуцца ў свет з небыцця.*
*Ёсць жа яшчэ ў мяне вера*
*У вольны мой родны народ,*
*Што — у патрэбе — з сякерай*
*Выйдзе за волю ў паход!*

Ці адбудаваны Беларускі Дом? Не адбудаваны. А было ж зусім нядаўна...

Нарадзілася Незалежная Беларусь! Смела, актыўна, годна пайшла ў свет. Ачнуліся, збудзіліся ад летаргіі яе сыны і дочкі, адгукнуліся на покліч Бацькаўшчыны, памкнуліся да вялікай і нялёгкай працы дзеля яе адбудовы. Ды забыліся мы, што змены ў народзе адбыліся не толькі колькасныя, але й якасныя, і не ў лепшы, на жаль, бок; што шырока разлілася і запанавала ў народзе люмпенская ідэалогія. У выніку людзі нашы лёгка паддаліся дэмагогам, цынікам, хлусам, балбатунам, пакваліліся на пустыя абяцанкі. Вось і вярнуліся да ўлады колішнія наменклатуршчыкі, толькі трошкі ніжэйшага, раённа-абласнога, узроўню, не надта шляхетныя, не надта высокага інтэлекту і не надта цвёрдых маральных прынцыпаў. Тыя ж купалаўскія "адшчапенцы", па-цяперашняму — "інтэрнацыяналісты", "аб'яднальшчыкі", "злівальшчыкі", "інтэгратары", змагары за "стабільнасць у дзяржаве", за "спакой і адзінства ў нашым агульным доме". Мы таксама за ўсё гэта. Толькі ж — у якім доме? У Беларускім Доме ці ў "Белорусской губернии" Расіі? Хто ў гэтым доме будзе гаспадаром? Беларус, "зямлі і неба валадар", ці пыхлівы пан-прыблуда, які літасціва будзе дзяліць сваю ўладу з тутэйшымі манкуртамі і янычарамі, з тымі ж купалаўскімі "адшчапенцамі"?

Без адказу на гэтыя пытанні няшмат сэнсу разважаць над іншымі пытаннямі. Эканоміка краіны ўсё больш патанае ў нашай беларускай дрыгве, з якой і выкараскацца нацыя ўрад ці зможа, бо не адпускае нікога і ніколі дрыгва. А на ўсе пытанні адказ адшуканы і дадзены іншымі народамі даўным-даўно. Панацэя — нацыянальная ідэя. Толькі яна з'яднае, згуртуе народ, прынясе спакой і стабільнасць у дзяржаву, забяспечыць росквіт і эканомікі, і культуры.

На жаль, мы, беларусы, у сваім дзяржаўным доме не жывём сваім нацыянальным жыццём, а пачуваемся хіба кватарантамі — бяспраўнымі, нясмелымі, пакорлівымі. Нацыянальная ідэя так і не стала нашай пуцяводнай зоркай. Беларусы аказаліся завельмі савецкімі людзьмі. Бадай, як ніводны іншы народ былога СССР. Пагардлівае "савок" — мянушка найперш ці не нас, беларусаў. Мы й пасюль лічым сваім галоўным абавязкам і нават доблесцю — слухацца начальства і нічым не вылучацца ад іншых, быць як усе. Хто і якім чынам дастукаецца ў нашы сэрцы? Адно спадзяванне — на Купалу. І тады паўстане з народа нашага Прарок, Пясняр, Ваяк і Ўладар, каб "адбудаваць свой забраны пасад", бо народ "забыў, хто гаспадар і хто яго абдзёр з каронных шат"...

Вось таму і быў у мяне тым днём у Бяларучах не надта святочны, мінорны настрой. Бо ў нас усё — не як у людзей. Зірніце на суседзяў — палякаў, украінцаў, жамойтаў. Яны апантана, самаахвярна, дружна адбудоўваюць свае нацыянальныя дзяржавы. А мы? А ў нас пакуль што бясконца, з месяца ў месяц, ладзяцца і грымяць па ўсёй Беларусі розныя, адзін аднаму на змену, фестывалі. Мы спяваем, скачам, гуляем — сапраўды, гуляць дык гуляць! Быццам усё ў нас добра, адно што зламаўся ў некага (памятаеце казачку?) нейкі там сцізорык-складанчык. А зламаўся ж не сцізорык. Зламалася ўсё наша жыццё. Людзі нашы апынуліся ў галечы і безнадзейнасці. Як ніколі. Сённяшнюю нашу беднасць і безвыходнасць можна параўнаць хіба з пасляваеннымі. Утрырую? А зірніце — ці не больш сёння, чым па вайне, жабракоў-папрашайкаў? А колькі сірот у нашых дзіцячых дамах і школах-інтэрнатах? Таксама ці не больш, чым пасля вайны. Страшэнна гібеюць старыя, найперш адзінокія, бездапаможныя людзі, галоўным чынам у нашых вёсках, куды за ўсе часы савецкіх пяцігодак і перабудоў практычна так і не дайшла сучасная цывілізацыя. Жахлівыя памеры набыло п'янства і зладзейства, самыя розныя формы злачыннасці. А да ўсяго далучаецца — не магу не паўтарыцца — бяспрыкладная, страшэнная русіфікацыя. Мова наша цынічна, адкрыта, подла выцясняецца адусюль — з радыё, тэлебачання, з друку. Рэдкасцю робіцца беларуская кніга. І ўсё гэта — пад выглядам развіцця славутага двухмоўя. Вялікі начальнік паказаў прыклад, як трэба ганьбаваць, паскудзіць роднае слова. А людзі ў ладкі пляскаюць, крычаць на абаронцаў нашай мовы: "Абрыдлі вы са сваёй мовай! Яна не корміць!" Ну а хто ж мы без гэтай самай мовы? Без мовы, на якой размаўляюць-гамоняць рэкі і лясы гэтай зямлі, "нівы гутаркі вядуць", на якой шэпчуцца ветры і травы, шчабечуць птушкі, перагукваюцца пагоркі і курганы? Мы без роднае мовы не людзі нават, не тое што патрыёты. Ды акурат як на здзек наваспечаны саюз моладзі

атрымлівае назву патрыятычнага, і плоймы іншых "патрыётаў" вакол, якім косткай у горле — роднае слова, мова гэтай так палымяна любімай імі зямлі. Як зарвала, даруйце, усім. І начальнікам — вялікім і малым, і не начальнікам. Нават і жыхарам вёскі, калгасным кіраўнікам і спецыялістам, даяркам і трактарыстам. Яны таксама стараюцца з усіх сіл "говорить правильно", "не па-дзеравенскі", бо вельмі ж хочацца, проста нясцерпна хочацца быць як усе...

"Сёння ў нашай хаце свята..." Мо й няблагая сама па сабе песня, але ж — ці такое яно ўсеагульнае і паўсюднае гэтае свята ў нашых хатах? Сказана ж: "Што за смех, што за радасць, калі свет пастаянна палае? Ахутаныя цемрай, чаму вы не шукаеце святла?"

Як шукаць гэтае святло і дзе шукаць — падказвае Купала. Толькі трэба звяртацца да Яго. Святло гэтае — у любові да роднае зямлі, да маці і бацькі, да мовы і песні бацькоў, да родных вытокаў, да спадчыны, якая завецца ўсяго толькі "старонкаю роднаю".

Яшчэ і яшчэ раз — ратуймася Купалам! Услухаемся, што ён гаварыў сучаснікам (а значыць і нам, сённяшнім беларусам) у 1920 годзе, у такі ж цяжкі, як і сёння, для Бацькаўшчыны час. Услухаемся і ўзмоцнімся вераю:

"На беларускай зямлі было і цяпер ёсць шмат фальшывых прарокаў, шмат рэнегацкіх душ, што за лыжку поснай поліўкі з чужой міскі запрадаюць сябе і свой народ у рабства чужынцам, але гэтага няма чаго баяцца. У адным з псалмаў біблейскіх сказана: "стануў Бог у зграмаджэнні Багоў і паміж Багамі суды судзіць". Будзем верыць, што і ў нас, беларусаў, прыйдуць новыя людзі, новыя прарокі і будуць пабожаму над фальшывымі прарокамі і прадажнымі душамі суды судзіць, з пакалення ў пакаленне праклящцямі ўспамінаць.

Дык не зважайма на здраду, а пойдзем далей сваім цярністым, але святляным шляхам, па якім дагэтуль ішлі, з верай і надзеяй к таму вечнаму сонцу праўды і справядлівасці для ўсіх і для кожнага паасобку, і будзе на Беларусі не такое свята, якое мы цяпер святкуем".

Трэба чытаць Купалу! Звяртацца да Купалы! Ра́дзіцца з Купалам! І тады мы пачуем сваё сэрца!

***Не шукай сабе, мой братку,***
***З ветрам Бацькаўшчыну-матку***
***Ні на сушы, ні на моры,***
***Ні ў шчасці, ні у горы,***
***Не шукай яе там, братку!***

***Яе знойдзеш вельмі блізка,***
***Як знаходзіць лес вятрыска,***
***Толькі ў сэрца глянь сваё ты,***
***І ў душу заглянь з ахвотай,***
***Знойдзеш Бацькаўшчыну блізка!***

Ратуймася Купалам!

**Мікола ГІЛЬ**

ЛіМ, 25 снежня 1998

## Арыштавалі і Выпусьцілі...

Нам паведамляюць, што некалькі дзесяткаў афіцэраў паліцыі спэцыяльнага назначэньня затрымалі 14 сяброў апазыцыйнае Цэнтральнае выбарчае камісіі. Гэтая камісія адказная за арганізацыю прэзыдэнцкіх выбараў, якія назначаны на 16-га травеня (мая) гэтага году Вярхоўным Саветам 13-га склікання.

Камісія сабралася на сваё чарговае паседжаньне ў прыватнай рэстарацыі, дзеля апрабаты 178 тэрытарыяльных выбарчых участкаў. Сярод затрыманых аказаўся і старшыня гэтае камісіі, — спадар Віктар Ганчар.

Ужо на другі дзень затрыманыя былі адпушчаныя на волю з тым, што яны павінны зьявіцца 1-га сакавіка ў суд па справе нелегальнага мітынгу...

Падаецца да ведама наш
e-mail address:
**bdigest@iserv.net**

*Масей СЯДНЁЎ*

# Багародзіца

### Абразкі з даўнейшых дзён

**1**

На лаўцы ў застоллі, перад іконамі на каленях паўтараю за дзедам «Ойча наш». Ад дзеда спагады ніякай — ён патрабуе цвёрдага ведання гэтай і іншых малітваў. Зверху, з багаўніцы, не надта прыхільна, строга пазірае на мяне святы Мікола, якога бацька прывёз з вайны. Прыхільна паглядае толькі Багародзіца. З каленяў, крадком я пазіраю на Яе спагаднае аблічча, але тады збіваюся з малітвы, і дзед крычыць, каб я не лыпаў вачыма, знаў сваю справу. Маці, бывала, просіць дзеда, каб ён надта ўжо не мучыў унука цяжкімі і для дарослых малітвамі. Ды дзед не браў гэта на ўвагу. У думках я скардзіўся на дзеда Багародзіцы, і Яна спачувала мне, як і мая маці. Дзед неяк угадваў, што я скарджуся на яго Багародзіцы, і пагражаў розгай. Ад свайго не адступаў — штодня навучаў някемлівага ўнука Богу маліцца.

А дзядзька Ілья прыходзіў навучаць грамаце. Мы сядалі за стол, па-святочнаму накрыты абрусам, на нас з багаўніцы пазіралі святыя, мы былі ў іх навідавоку. Дзядзька напачатку прасіў прачытаць яму той кавалачак з буквара, які ён даручаў учора як належыць вывучыць. Чытаў я не надта добра, заікаўся, і дзядзька Ілья быў незадаволены мною. Мікола-ўгоднік здрадліва паглядаў на дзядзьку і даваў зразумець, што ўчора я цэлы дзень коўзаўся з сябрукамі на рэчцы, таму не дзіва, што не вывучыў урока. Але дзядзька не дзед — у яго няма розгі. Ад дзядзькі я мог уцячы і на печ, за комін, калі б ён надумаўся пакараць мяне. Аднак і ён, як і дзед, дамагаўся свайго — добрага чытання і правільнага вымаўлення. А я, колькі ён ні выпраўляў мяне, вымаўляў няправільна, так, як было напісана ў буквары, з націскам на «о»:

*Коси коса, пока роса,*
*роса долой, коса — домой.*

Выходзіць, маімі адзінымі абаронцамі былі толькі Багародзіца і маці.

**2**

Бацька хацеў, каб я хутчэй рос і быў яму падмогай. Але росту не падгоніш. Я ўсё яшчэ малы, але ўжо ганяю на папас цялят нашых вяскоўцаў. Зарабляю. Каб цяляты былі сытыя, а іхнія гаспадары задаволеныя, я трымаю іх між жытамі, дзе болей спажыўнай травы. Але з імі нялёгка — лезуць, у жыта і калі не ўпасеш — нашкодзяць. Разамлелы ад вясновага сонца, неўпрыкмет для сябе засну́ў, і цяляты разбрыліся, зашыліся ў жыты і такі нашкодзілі, асабліва спаласавалі жыта, нашага суседа. Ён надумаўся мяне правучыць: абкруціў сябе хваёвым карэннем, абчапляўся рознымі галінкамі, абляпіўся мохам, вымазаў твар гразёю — шалёна блішчэлі яго вочы — а на галаву надзеў нейкае кола. І калі я гнаў цялят паўз поле, гэтае страшыдла кінулася на мяне з высокага жыта з віскам і рознымі вывертамі. Я не памятаю, ці спужаўся, але кінуўся наўцёкі, бег з усяе сілы, мне здавалася, сам чорт гоніцца за мною. Я стараўся бегчы яшчэ прытчэй, аж пакуль не дабег да скрыжавання і не ўбачыў на крыжы пад стрэшкай Божую маці, спагадную, як і тая, што ў нашай хаце. Яна мне, здаецца, гаварыла: не бойся, спыніся, азірніся. Я азірнуўся: перада мною імкнула ўдаль прыгожая сцяжынка і запрашала ісці па ёй. І я пайшоў. Сцежка прывяла мяне туды, дзе я пакінуў цялят. Яны мірна пасвіліся, і ніводнае з іх не спакусілася жытам.

**3**

Я ўжо трохі падрос і з цялятамі развітаўся — ваджу ўжо коней у начное, ці, як у нас казалі, на начлег. Я магу забрыгаць каня, сесці на яго і нават ездзіць верхам. Я для бацькі — падмога. Яму ўжо не трэба быць з конямі ўначы і, не адпачыўшы, працаваць потым цэлы дзень па гаспадарцы. У нас трое коней — конь, кабыла і жарабя. Бацька яшчэ не запрагае яго — замаладое. На начлег я ваджу коней у поле, якое «гуляе» — пакідаецца на папар, і на ім цэлае лета пасвяцца коні, каровы, авечкі і свінні. За лета яны стаўкуць поле гэтак, што яно нагадвае бубен. А каню, каб магчы цягнуць воз, плуг ці барану, трэба ж добра пад'есці, на пусты жывот не пацягнеш. Вось і прыводжу я раніцой коней дахаты галоднымі, з упалымі бакамі, і бацька тады незадаволены, быццам гэта мая віна, што яны галодныя. Галоднай кабыла не давалася да рук: убрыкне, ляпне зубамі, ведае, што яе чакае, калі надзену аброць. Але конь скоса зыркаў на яе, і яна, бедалага, здавалася. Конь быццам казаў, што нельга са мною, малым гаспадаром, так абыходзіцца. Вядома, мая душа балела, калі я прыводзіў коней дахаты галоднымі.

А былі ж і такія малалетнія конюхі, якім удавалася насыціць сваіх коней: яны пушчалі іх, нестрыножаных, у чужы лог, а самі хаваліся, каб іх разам з коньмі не палавіў уласнік логу. І калі ім гэта сыходзіла з рук, раніцою яны вярталіся дахаты героямі — іх коні былі сытыя, лагодныя, аж блішчэлі.

Адважыўся і я аднойчы пусціць сваіх коней у чужы лог. Але мяне напаткала бяда: маіх падапечных палавілі, забралі, і дахаты я прыйшоў без коней, толькі з цяжкімі аброцямі на плячы. У хаце яшчэ спалі. Я не ведаў што рабіць, я баяўся бацькі, ведаў, што ён мяне не пашкадуе. Не распрануўшыся, у чым прыйшоў з пашы, я ўкленчыў на падлозе, малюся, слёзна прашу Багародзіцу дапамагчы мне. Я прасіў Яе і ў малітвах, якім навучыў дзед, і сваімі словамі прасіў. Ажно чую — уваходзіць у хату дзед, нічога не кажучы, падняў мяне з каленяў, узяў аброці і выйшаў з хаты. Зморaны, я заснуў, а прачнуўся — дзед ужо з коньмі на двары. Гэта Багародзіца дапамагла мне, я проста быў упэўнены ў гэтым.

**4**

Нядзеля. Сёмуха. Вялікае свята. Дзень непрацоўны, і я з коньмі на полі цэлы дзень. Сонечна. Наваколле дрэмле ў ціхім супакоі. Такое адчуванне, быццам адбываецца нейкая тайна. Заварожаны гэтай тайнай, драмлю і я, прылёгшы на ўзгорку, ахіненым рознай зарасляй. Унізе — мае коні. Ім хапае спажывы. Я іх не бачу, але чую, як яны пасвяцца, фыркаюць. Чую таксама, як плешчуцца ў маленькім азярцы качкі. Яно таксама ўнізе, гэта конскі вадапой. Я за коней спакойны, яны не пойдуць у шкоду — сёння ж свята і нават коні мусяць быць добрымі. У зарaслі нешта зашуршэла. О, Божа! — гадзюка. Узнімае галаву, аглядаецца, быццам збіраецца скочыць на мяне. З вяршыні гонкай сасны, што ўзвышаецца нада мной, пазірае на гадзюку крумкач, гатовы кінуцца на яе. За гадзюкай выпаўз вуж, зашнырылі яшчаркі. Жудка глядзець на такое суседства. А тут яшчэ прабегла старaной лісіца, за ёю — воўк. Я нібы ў нейкім запаведніку.

Як нейкі дух крануў вяршыню сасны, па ёй прабег лёгкі павеў. Зляцеў долу крумкач. Запанавала моўкнасць, лагода, і я быў сведкам, не — удзельнікам цуду: замест зарасляў на ўзгорку падняліся розных колераў прыгожыя кветкі. З узгорка ўніз бруіць крыштальнай чысціні крынічка, побач дзве пальмы, і пад імі ў цяньку мае коні. О, Божа, цуд творыцца далей: каля крынічкі адна бліз адной сядзяць качкі, між імі скруцілася ў абаранак прыгажуня-змяя з вужам, крумкач (і ён не дзяўбе іх). Тут і лісіца, што бегла старaной, і той воўк, што гнаўся за ёю і цяпер ласкава глядзіць ёй у вочы. Як пасланцы нябёсаў, праляцелі над гэтым ціхамірным сямействам галубкі, скінуўшы тры прыгожыя пёркі, што павольна ападалі на заварожаны нейкім добрым чараўніком узгорак. Зачараваны, я шаптаў малітвы, складаючы хвалу прачыстай Багародзіцы, што не пакідае нас.

## Прырост адкрытых у Беларусі запасаў нафты дазваляе стабілізаваць яе гадавую здабычу на ўзроўні 1 мільёна 900 тысяч тон

За 1998 год нафтаразведчыкі ВА "Белгеалогія" забяспечылі прырост адкрытых на Беларусі запасаў высакаякаснай маласярністай нафты ў колькасці 420 тысяч тон.

Як паведаміў БелаПАН галоўны геолаг па нафце і газу аб'яднання Яраслаў Грыбік, гэты прырост атрыманы на Нова-Давыдаўскім, Заходне-Славаньскім, Паўночна-Чысталюскім (усе ў Гомельскай вобласці) і Нова-Драздоўскім (Магілёўская вобласць) радовішчах. Акрамя таго, як заўважыў Я.Грыбік, нафтаздабытчыкі краіны забяспечылі гадавы прырост запасаў нафты ў колькасці прыкладна 600 тысяч тон. Такім чынам, сумарны прырост адкрытых на Беларусі запасаў нафты, па словах Я.Грыбіка, дазваляе стабілізаваць яе гадавую здабычу на ўзроўні 1 мільёна 900 тысяч тон.

**Марат ГАРАВЫ.**

# Наша заклапочанасць станам беларускай мовы станоўча ўспрымаецца кіраўніцтвам большасці ВНУ Рэспублікі

У сучасных, у многім штучна створаных абсурдных умовах жыццядзейнасці нашага беларускага грамадства ёсць і такое, што не можа ўспрымацца розумам псіхічна нармальнага чалавека. Так. свет яшчэ не меў прыкладаў, каб кіраўнік краіны абвясціў адной з галоўных мэтаў пачатку сваёй дзейнасці рашучую барацьбу з мовай карэннага народа дзяржавы, пасады прэзідэнта ў якой так дамагаўся. Не! Ён не казаў, што будзе дабівацца яе знішчэння. Але яшчэ 01.12.1994 г. (гэта, значыць, прыкладна праз 5 месяцаў пасля заняцця пасады прэзідэнта) у афіцыйным выступленні (у якасці кіраўніка дзяржавы) на сесіі Гомельскага гарсавета абвясціў наступнае.

- " Люди, которые говорят на белорусском языке, не могут делать ничего, кроме как разговаривать на белорусском, потому что по-белорусски нельзя выразить что-то большое. Белорусский язык - бедный язык. В мире существует только два великих языка - русский и английский». У гэтым вар'яцкім выказванні ёсць сапраўды штосьці такое «БОЛЬШОЕ»;

- Знявага ўсіх моў Свету і іх носьбітаў - адпаведных народаў пры ўласным няведанні ні беларускай, ні англійскай, ні іншых моў;

- Абвяшчэнне сябе суддзёй вышэйшым за Бога, які стварыў разнастайныя этнасы і адпавядаючыя іх сутнасці мовы не выпадкова, а з вызначанымі мэтамі самаўдасканальвання ўсяго чалавецтва праз узаемадзеянне этнічных рознасцяў.

І на гэтым ён не спыніўся: падманам і авантурамі дабіўся (пры падтрымцы амаль двухмільённай рускай «меншасці») поўнага панавання «великого и могучего русского языка» з хлуснёй, што быццам бы беларусы добраахвотна прагаласавалі за сваё самазнішчэнне ў этнічных адносінах. Гісторыя ніколі не даруе А.Р.Лукашэнку гэтага Яна запіша яго імя на сваіх старонках самымі ганебнымі словамі. І зараз гэты чалавек, стварыўшы каманду па прынцыпу «па Сеньку і шапка», павучае ўвесь свет і застаецца верным сваёй мэце ў адносінах да беларускай мовы. Аднак зноў жа ён не выдае загадаў аб яе забароне. Толькі робіць усё магчымае, каб яна стала непатрэбнай нашаму грамадству. Таму яна не выкарыстоўваецца ні ў дзяржаўных органах, ні ў парламенце, ні ў справаводстве, ні ва ўнутрыдзяржаўнай перапісцы, ні ў звычайных чалавечых зносінах. Нават Акадэмія Навук Беларусі, каб спадабацца свайму «бацьку» і атрымаць ад яго карысныя падачкі, «забылася», што галоўная мэта любой (а тым больш нацыянальнай!) Акадэміі Навук заключаецца ў зберажэнні і ўздыме душы ўласнага народа, у аснову якой Богам пакладзена яго мова. Прыкладна ж тое робіць і міністр адукацыі. Вядома, такая здрада не прыбавіць навуковых здольнасцяў здраднікам і выніковасці іх працы. Але яна робіць брыдкую справу: нацкоўвае саміх жа беларусаў супраць сваёй уласнай мовы. У выніку колькасць беларускамоўных класаў (асабліва ў гарадах) катастрафічна змяншаецца. Застаецца спадзяванне толькі на вышэйшыя навучальныя установы (ВНУ), ад якіх залежыць захаванне асноў беларускасці ў нашай краіне. Каб звярнуць на гэта ўвагу, Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны звярнулася ў пачатку гэтага года да рэктаратаў усіх ВНУ рэспублікі з наступнымі 12 – ю пытаннямі:

- Ці вывучаецца беларуская мова студэнтамі ўсіх спецыяльнасцяў Вашай ВНУ? На якіх курсах і ў якім аб'ёме выкладанне ідзе па-беларуску? Якая дынаміка гэтага працэсу, пачынаючы з 1993 года?

- На якой мове выкладаюцца грамадскія дысцыпліны?

- Як выкарыстоўваецца беларуская мова пры вывучэнні прыродазнаўчых навук (матэматыкі, фізікі, хіміі, біялогіі, геаграфіі)?

- Колькі выкладчыкаў (у працэнтных адносінах да ўсіх) карыстаецца ў навучальным працэсе беларускай мовай?

- Колькі абітурыентаў (у працэнтных адносінах да агульнай колькасці) здавала ўступныя экзамены па-беларуску, пачынаючы з 1993 года?

- Ці разглядаліся на Савеце Вашай ВНУ пытанні выкарыстання беларускай мовы ў працэсе навучання? Якія прымаліся рашэнні і калі?

- Колькі падручнікаў і іншай вучэбнай літаратуры выдадзена (пачынаючы з 1993 года) на беларускай мове? Колькі працэнтаў гэта складае ад усёй выдадзенай Вашымі супрацоўнікамі літаратуры?

- Што стрымлівае пашырэнне выкарыстання беларускай мовы ў навучальным працэсе Вашай ВНУ?

- Ці афармляюцца дысертацыйныя даследаванні ў Вашай ВНУ на беларускай мове? Ці бываюць абароны на ёй?

- На якой мове вядзецца справаводства ВНУ і праводзяцца пасяджэнні яе Савета?

- Якія мерапрыемствы агульнадзяржаўнага ўзроўню неабходны, на Вашу думку, для развіцця і пашырэння ўжытку беларускай мовы?

- Наколькі Вы асабіста валодаеце і карыстаецеся беларускай мовай?

Кіраўніцтва ўсіх 16-і недзяржаўных ВНУ ігнаравала нашу заклапочанасць нездавальняючым станам беларускасці ў нашай рэспубліцы. Тым самым яно пацвердзіла сваю антыбеларускую этнічную скіраванасць або абыякавасць да гэтых спраў. Большасць жа дзяржаўных (30 з 41) даслалі свае тлумачэнні. У іх ліку і Акадэмія Кіравання пры прэзідэнце РБ. З тых допісаў вынікае разуменне рэктарамі дзяржаўных ВНУ неабходнасці зберажэння і развіцця беларускай мовы ў якасці адной з першасных задач іх дзейнасці. Толькі адзін праф. Цыганоў А.Р. (рэктар Бел.с.г. акадэміі) даў практычна зневажальны адказ.

Аналіз атрыманых намі матэрыялаў робіцца прафесарам, доктарам філасофскіх навук М.І.Крукоўскім. Яго вынікі будуць надрукаваны. Але ўжо зараз можна назваць заўважную заканамернасць: чым вышэйшы духоўны інтэлект, агульнае развіццё і сумленне рэктара пэўнай ВНУ, тым лепш пастаўлены ў ёй справы беларускасці. У далейшым мы будзем друкаваць (магчыма ў скарочаным выглядзе) найбольш змястоўныя адказы на пытанні, пастаўленыя Таварыствам беларускай мовы імя Ф.Скарыны перад рэктарамі ВНУ. Падачу гэтай інфармацыі пачынаем рабіць з Мінскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага універсітэта з адпаведнымі назвамі.

**Аляксей Саламонаў, прафесар, старшыня Мінскай гарадской рады ТБМ**

# Як зажыве «зайчык» у год Зайца?..

"Звязда"

СЁЛЕТНІЯ паводзіны беларускага «зайчыка», скажам прама, не цягнуць нават на «здавальняючыя». Айчынны рубель у год Тыгра зусім разбэсціўся, хоць да канца летніх «канікулаў» і паводзіў сябе больш-менш прыстойна: перыядычныя скачкі «віславухага» рэкордаў не білі і здароўе істотна нам, беларусам, не псавалі. Праўда, на працягу ўсяго года вяліся шматлікія спрэчкі наконт альтэрнатыў «выхавання» народжанага ў гэтым дзесяцігоддзі ўласнага дзіцяці. Хто ведае, як бы ўсё абярнулася, калі б не ўмяшаўся ў гэты працэс суседскі рублік, які, трэба заўважыць, мае вялікі ўплыў на наш. Трэба было толькі «захварэць» расійскаму, як беларускі рубель пачаў сохнуць на вачах. На жаль, мноства лекаў, якія прапісаў шматпакутнаму «зайчыку» галоўны тэрапеўт — Нацыянальны банк, на самаадчуванне пацыента істотна не паўплывалі: хвароба прагрэсіруе. Аднак ёсць надзея (якая, як вядома, заўсёды памірае апошняй), што ў будучым годзе ўсё зменіцца і дыягназ стане куды больш аптымістычным: усё ж такі надыходзячы мы правядзём пад знакам Зайца — існуе верагоднасць, што ён стане лёсаносным для «зайчыка» ў лепшым сэнсе.

Не ўсе банкіры, між іншым, з якімі давялося гутарыць, падзяляюць аптымістычныя прагнозы на наступны год. Напрыклад, старшыня праўлення аднаго з камерцыйных банкаў рэспублікі ўпэўнены, што ў 1999 годзе афіцыйны курс беларускага рубля ўпадзе не менш чым у тры разы. Прычым песімізм банкіра падзяляюць многія аналітыкі, якія летась разлічвалі на больш станоўчы зыход у адыходзячым годзе.

— Сапраўды, незалежныя эксперты, якія ведалі запланаваны аб'ём эмісіі ў сярэдзіне года, прадказвалі курс беларускага рубля на канец у 100 тысяч рублёў за долар, — гаворыць прафесар БДУ Міхаіл Кавалёў. — На жаль, нават прагнозы незалежных экспертаў не апраўдаліся. Галоўная падзея, якая значна паўплывала на дэвальвацыю беларускага рубля, выклікана фінансавым крызісам і стратай плацежаздольнасці Расіі. Фактычна кошт нашага экспарту ў суседнюю дзяржаву паменшыўся ўтрая. У выніку са жніўня мы які ўжо месяц запар недабіраем прыкладна сто мільёнаў долараў у месяц. Гэта адбілася на ўсіх сегментах рынку, выявіўся востры дэфіцыт долара нават для аплаты крытычнага імпарту.

*— Міхаіл Міхайлавіч, бягучыя праблемы не разумее, мабыць, толькі немаўля. Як, на ваш погляд, будзе развівацца сітуацыя ў наступным годзе.*

— Дакладна спрагназіраваць цяжка. Разам з тым, з аднаго боку рашучыя дзеянні ўрада і Нацбанка дазволілі ўрэгуляваць запазычанасці, якія ўзніклі ў выніку падзей у Расіі. З другога — узноўлена разліковая сістэма Расіі і Беларусі праз надзейныя банкі. І ёсць надзея, што экспарцёры змогуць адаптавацца да новых рэалій і ўзнавіць экспарт. Ад гэтага ў многім залежыць тое, па якому сцэнарыю будзе развівацца валютная сітуацыя ў наступным годзе.

Натуральна, што курс беларускага рубля на канец наступнага года ў значнай ступені залежыць таксама ад таго, ці ўдасца нам утрымацца ў рамках запланаванай эмісіі, што зрабіць будзе нялёгка з улікам даволі вялікай інфляцыі ў канцы гэтага года. Гэта значыць, грошай не будзе хапаць. Разам з тым, калі ўдасца ўтрымаць эмісію ў запланаваных рамках, то ёсць магчымасць паўтарыць сцэнарый 1995 года, калі практычна ўвесь год курс заставаўся стабільным. Але яшчэ раз падкрэслю, што курс робіцца не ў Нацбанку, не ў Савеце Міністраў, а на заводах, якія заключаюць экспартныя кантракты: калі на працягу студзеня-лютага імі будзе заключана дастатковая колькасць экспартных кантрактаў — з курсам будзе ўсё ў парадку. Канешне, некаторы псіхалагічны ўплыў акажа і тое, ці падтрымае нас МВФ: важны не столькі крэдыт, яго памер, а тое, наколькі гэта зменіць псіхалагічную атмасферу ў грамадстве, адносіны інвестараў да Беларусі і дазволіць замацаваць курс, на жаль, на вельмі нізкім узроўні, на якім ён сёння знаходзіцца.

— Беларускі «зайчык» да лета, калі нічога ў эканамічнай палітыцы не зменіцца, упадзе да 400—500 тысяч рублёў за долар, а да зімы — да 700—800 тысяч, — лічыць Аляксандр Лучанок, загадчык аддзела Інстытута эканомікі Нацыянальнай акадэміі навук. — На неафіцыйным рынку па безнаяўнаму разліку да канца наступнага года кошт долара можа перасягнуць за мільён.

На гэта ўплываюць два фактары. Перш: Нацыянальны банк штогод працягвае павялічваць грашовую масу ў 2 разы, не забяспечваючы яе адпаведным таварным пакрыццём. Гэта прыводзіць да росту курса долара ў 2 разы. І па-другое, наш «зайчык» цалкам залежыць ад расійскага рубля: калі расійскі рубель будзе падаць, то і беларускаму не паздаровіцца.

*— Аляксандр Іванавіч, на вашу думку, як пазбегнуць падзення?*

— Па-першае, трэба перайсці да свабоднай каціроўкі беларускага рубля на МВБ. Тады курс безнаяўнага рубля да долара падымецца з 450 тысяч прыкладна да 350. Зараз на безнаяўным рынку курс складае 400—450 тысяч. Гэта адбываецца таму, што вельмі абмежаваная колькасць нерэзідэнтаў вызначае гэты курс. Калі ж мы будзем свабодна канверсаваць, свабодна прадаваць і купляць, а галоўнае, адменім ільготны продаж валюты, то тады курс долара ў адносінах да беларускага рубля знізіцца.

Па-другое, неабходна спыніць фінансаванне ўсіх праектаў па будаўніцтву, неабгрунтаваных праектаў падтрымкі сельскай гаспадаркі. Штогод кожны грамадзянін Беларусі, які не будуе жыллё, з-за напампоўвання грошай у жыллёвае будаўніцтва страціў фактычна свой сярэднямесячны даход.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**



# Заява

## Сакратарыята Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

З недаўменнем і абурэннем патрыёты Беларусі ўспрынялі той факт, што абодва экземпляры падпісаных 25 снежня 1998 года ў Маскве прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкам і прэзідэнтам Расійскай Федэрацыі Б.М.Ельцыным Дагавора аб роўных правах грамадзян і Пагаднення аб стварэнні роўных умоў суб'ектам гаспадарання краін учынены, у парушэнне агульнапрынятых дыпламатычных традыцый, толькі на адной мове — рускай. Тым самым адкрыта засведчана непавага да дзяржаўнай беларускай мовы і яшчэ раз пацверджана хлуслівасць дэмагагічных заяў кіраўнікоў рэспублікі аб роўнасці беларускай і рускай моў.

Выступаючы пасля вяртання з Масквы ў прамым эфіры нацыянальнага тэлебачання, прэзідэнт А.Лукашэнка на пытанне журналіста аб адсутнасці беларускага варыянта падпісаных дакументаў адказаў так: "Гэта не мае ніякага значэння. Можна было напісаць на рускай і беларускай. Але паколькі ў нас руская мова з'яўляецца ў тым ліку і дзяржаўнай мовай, відаць, спецыялісты так і вырашылі, што гэта ўпаўне нармальна".

Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны не лічыць і не можа лічыць нармальным парушэнне канстытуцыйнага статусу роднай мовы і заяўляе рашучы пратэст у сувязі з дэманстратыўным ігнараваннем у міжнародных стасунках дзяржаўнай беларускай мовы. Дарэчы, непаважлівыя адносіны ўладных структур да мовы карэннага насельніцтва нашай краіны ў апошні час пачасціліся і робяцца звычайнымі. Так, перапісныя лісты для праводзімага неўзабаве ў Беларусі перапісу насельніцтва Міністэрствам статыстыкі і аналізу падрыхтаваны толькі на рускай мове. Ідзе відавочнае адмаўленне ад афіцыйна заяўленага двухмоўя і рэальнае замацаванне ролі дзяржаўнай мовы за рускай мовай.

Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны рашуча асуджае антыбеларускую практыку высокага чынавенства рэспублікі ў адносінах да нашай роднай мовы і патрабуе строгага захавання за беларускай мовай усіх адзнак яе дзяржаўнасці.

Заклікаем усіх грамадзян суверэннай Рэспублікі Беларусь, усіх сяброў нашай Бацькаўшчыны актыўна выступаць супраць любых спроб уціску адной з самых старажытных і багатых славянскіх моў. Не будзем забываць, што, пакуль жыве беларуская мова, жыве самастойная, вольная Беларусь!





# ЖЫТА І ВАСІЛЁК

Алесь РАЗАНАЎ

*СЛОВА ПРА МАКСІМА БАГДАНОВІЧА*

Такое ўражанне: Максіма Багдановіча чытаюць і перачытваюць не толькі прыхільнікі і знаўцы паэзіі, але і сам час, самі падзеі — нібы забыліся нешта і намагаюцца ўспомніць — звяртаюцца да яго за падказкаю і парадай.

Дзіўна, але цяпер, калі крычаць і заяўляюць аб сабе далёка не паэтычныя рэчы, калі беларуская рэчаіснасць стурзана супярэчнасцямі, ён актуальны больш чым хто іншы, ён, пра якога мы кажам, што гэта паэт чыстай красы.

Дык што ведае Максім Багдановіч, чаго не ведаем мы?

Што памятае, чаго не памятаем мы?

І што — якія токі, якія сілы, якія вобразы — жывяць гэтую актуальнасць?

Думаю, адказ тоіцца ў самой з'яве красы, увасобленай Максімам Багдановічам у сваіх творах: яна той непаўторны “згук”, на які адгукаецца беларускае светаадчуванне, яна той адмысловы знак, праз які беларускае распазнае, што яно беларускае.

З'ява красы і з'ява Беларусі ў творчасці Багдановіча зродненыя і неаддзельныя адна ад адной, як зоркі-двайняткі, “Каторыя так блізкі паміж сабой І так суцэльна зліваюць сваё святло, Што нам здаюцца адною зоркаю”, — як пісаў ён сам.

Усё прыгожае ў яго беларускае і гаворыць па-беларуску, а беларускае, у сваю чаргу, прыгожае і гаворыць аб слаўным, аб шчырым, аб запаветным і, само па сабе, аб прыгожым.

Можна перакроіць межы краіны — і каардыната геаграфіі мусіць зграджацца з дадзенымі акалічнасцямі;

можна гвалтам і запалохваннямі адбіць у народа памяць — і каардыната гісторыі ўжо будзе залежаць ад жэстаў чарговага правадыра;

можна спаіць і растварыць у міграцыйных плынях насельніцтва — і каардыната дэмаграфіі распадзецца на мноства частак.

Але, акрамя гэтых каардынатаў, Айчыну вызнае і вызначае яшчэ каардыната красы, і да гэтай каардынаты маюць доступ не прахадныя і падстаўныя “цяперцы”, а захавальнікі вечнасці — мастак ды музыка.

Вось жа, самае кволае — яно ўрэшце і самае трывалае, самае не ўжытковае — яно і самае патрэбнае, самае бяспраўнае — яно і самае праўдзівае.

У многіх сваіх творах Максім Багдановіч звяртаецца да з'явы красы, разважае аб яе прыродзе, асэнсоўвае яе ўласцівасці: у “Перапісчыку”, у “Кнізе” і ў “Слуцкіх ткачыхах”, у “Санеце”, у “Трыялеце”, у “Рандо”, у “Актаве” і ў “Тэрцынах”, у “Мадоннах”, у “Лісце...” і ў “Агаце”, у “Музыку”, у “Апавяданні аб іконніку і залатару” і ў “Апокрыфе”. На апошнім з названых твораў я хацеў бы сёння спыніцца, разглядзець яго больш уважліва.

Ёмісты сюжэт, няхітрая фабула — я скаратку, і ў самых асноўных рысах, нагадаю, пра што там ідзе гаворка.

Калі споўнілася мера часу, Ісус Хрыстос зноў сышоў на зямлю са сваімі апосталамі. І хадзіў ён па нашым краі: па Міншчыне і па Віленшчыне, па Задзвінскай зямлі — Віцебшчыне ды Смаленшчыне — і па Магілёўшчыне. Адзеты ён быў дужа проста, а не такога другога прышэсця спадзяваліся людзі. Таму, калі аднаго дня ён падышоў да жытнёвага палетка, дзе людзі былі заняты сваёй звычайнай сялянскай працай, на іх ніхто не звярнуў асаблівай увагі. Адно музыка, якому цяпер не было чаго рабіць, падышоў да яго і сказаў: сорамна мне, усе людзі працуюць, а я нічым не заняты; нікчэмны я чалавек.

Тады Ісус Хрыстос пытаецца ў яго: скажы, калі спяваюць у вас песні? Музыка адказвае: заўсёды спяваюць. Спяваюць на радзінах і хрэсьбінах, на вяселлях і на хаўтурах, на бяседзе і ў працы, на калядах і на велікдзень, на зажынках і на дажынках.

Дык жа не саромейся свайго дару, — кажа на гэта Ісус Хрыстос. — Ты не лішні на зямлі, ты патрэбен людзям. Яны любяць твае песні, яны цягнуцца да красы, яны не асудзілі яе, хоць іхняе жыццё беднае і цяжкае.

Тады ў размову ўмешваецца апостал Пётра. Ён, згодна з народным светапоглядам, носіць ключы ад райскай брамы і разважае па-гаспадарску, таму зусім натуральна, што менавіта ён згадвае пра спажытак: дык няхай жа ў песнях будуць карысныя і павучальныя думкі, каб, апрача красы, меўся ў іх яшчэ і спажытак людзям.

І вось тут мы падыходзім да ключавога радка ў “Апокрыфе”, тут Ісус Хрыстос вымаўляе формулу — вы яе памятаеце, гэта творчае крэда самога Максіма Багдановіча: няма красы без спажытку, бо сама краса і ёсць спажытак для душы.

На гэтым месцы дазвольце мне прыпыніцца ці, калі больш дакладна, пераключыць вашу ўвагу на тое, што мы ўжо заўважылі ў “Апокрыфе”, — на планы, якія там прысутнічаюць і ўзаемадзейнічаюць.

Разам з Ісусам Хрыстом, апосталамі і музыкам мы пазіраем перад сабою і бачым жытнёвы выспелы светлы палетак, а ў ім акупунктурную кропку — сіні васілёк. Гаспадар, які, дбаючы пра ўраджай, увесь час рупіўся ля палетка, усё-такі не вырваў і не стаптаў яго як марнае пустазелле, бо простая краса васілька яму даспадобы; яна з маленства запала яму ў душу, а над душой гаспадар палетка, пэўна, не мае ўлады. Гэта першы план, план тэзы. На ім усё маляўніча і гарманічна.

Другі план, план антытэзы, у “Апокрыфе” аддадзены народу і музыку. Пра іх, унутрана праблематычныя, узаемадачыненні я ўжо трохі згадваў. Музыка мае патрэбу ў народзе: ён аддае яму свае песні і як плату за іх прымае ад яго хлеб; таксама народ мае патрэбу ў музыку: ён дае яму хлеб і як плату прымае ад яго “спажытак для душы” — песні. Яны будуць спявацца пры любой нагодзе, і любая нагода дзякуючы песням здольная будзе асвоіцца і ўвесціся ў жыццёвы абсяг.

Трэці план, план сінтэзы, належыць Ісусу Хрысту і апосталам. Іх двое, іх усяго двое: апостал Пётра, які ўдзельнічае ў размове, і апостал Юры, які на працягу ўсяго “Апокрыфа” не вымаўляе ні слова (!), ён як бы адсутнічае, ён як бы забыты. Аднак яго роля не зводзіцца да ролі статыста, наадварот, яна бярэ на сябе надзвычай істотную нагрузку.

Глядзіце, як трансфармуюцца і адначасова паўтараюцца, пераходзячы з плана на план зыходныя постаці! Жыта і васілёк на першым плане, яны адпаведна народ і музыка на другім. Што тычыцца трэцяга плана, то зразумела, хто тут жыта: безумоўна, гэта апостал Пётра. А васілёк? Няўжо сам Ісус Хрыстос? Вунь жа як ён апраўдаў музыку і адвярнуў Пётравы ўдакладненні!.. Семантыка “Апокрыфа” напэўна аддала б гэтую ролю Ісусу Хрысту, калі б не было “нямога” апостала — Юрыя. Васілёк — ён! Ён сам узор прыгажосці. “А прыгожы, — як Юры святы”, — згадваеце гэтае ўзрушанае параўнанне з Багдановічавай “Агаты”? А маўчыць ён таму, што не мае нічога сказаць звыш самога сябе. Ён гаворыць усім сваім красамоўным выглядам, усёй сваёй гожай постацю, усёй сваёй невыказнай прыгажосцю, ён ужо не ўмее гаварыць інакш. Гэтае ўменне засталося на папярэдніх планах, якія маюць магчымасць выявіцца, выказацца і зразумецца, але і там, дзе гаворка звычайна ідзе пра тое, каб апраўдаць, абараніць і сцвердзіць сваё існаванне, ні васілёк, ні музыка не здатны гэта зрабіць; гэта за іх робіць іншыя і як бы наперакор звычайнай, увасобленай у словах развагі, логіцы. Васілёк нелагічны, музыка не лагічны, і не лагічны святы Юры! Яны размыкаюць рэчаіснасць і даюць ёй, на здзіўленне ёй, звыш таго, што яна згадзілася мець. “Візуальны” васілёк — тая кропля, што ўжо выліваецца з чашы збажыны, “згукавы” музыка — той спеў, што вымыкае па-над палеткам людской гаворкі, і “іпастасны” святы Юры — той ясны подзвіг, што творыцца несупынна. У іх ужо няма іх для іх саміх, у іх ужо не гучыць іхняя асабовасць, а гучыць голас Ісціны, і гэты голас кажа: “Добра быць коласам, але шчаслівы той, каму давялося быць васільком”.

Жыта не пазнала Хрыста, а васілёк пазнаў, працоўны люд не пазнаў Хрыста, а музыка пазнаў, і святы Юры пазнаў Хрыста гэтак самаадданa, што забыў самога сябе: што яму гаварыць і нашто яму гаварыць, калі гаворыць той, у кім скончыўся час?!

Вечная таямніца мастацтва ў тым, што, дасягаючы сваёй “нябеснай айчыны” і не залежачы ад улады зямлі, і колер, і гук робіцца нечым іншым, чым колер і гук: колер бясколерным, і гук бязгучным, прынамсі, для сваіх папярэдніх планаў. Але і вечная крыніца мастацтва таксама ў тым, што перад тым, як засвяціцца, колер мае быць бясколерным, і перад тым, як загучаць, гук мае быць бязгучным.

Вось, бадай, і ўсё пра “Апокрыф”. Мушу, аднак, прызнацца, што ў гэтым глыбокім і чыстым творы, аб'яўленым Максімам Багдановічам у “Каляднай пісанцы” ў 1913 годзе, мне як чытачу нечага цяпер не хапае. Чаго? Скажу: гісторыі, працягу ў гісторыю.

Але — і тут аддадзім належнае Максіму Багдановічу — на самым узмежку “Апокрыфа” мы знаходзім дужа важны знак — след, які як бы выходзіць за межы “Апокрыфа” і, яшчэ прыналежачы таму самаму кантэксту, той самай стылістыцы, кажа ўжо пра зусім іншыя рэчы — пра немінучыя разбуральныя зрухі, што маюць настаць і што ўжо настаюць, і што ні ў межах “Апокрыфа”, ні ў межах мастацтва змясціцца не могуць. Маю на ўвазе заключныя радкі з “Апокрыфа”: “І босыя ногі Хрыста пакідалі на цёплым і мяккім пыле дарогі сляды. Але гора вам, людзі, бо даўно ўжо затапталі вы іх”.

Давайце паспрабуем увайсці ў гэты новы — няпісаны — раздзел, у саму гісторыю, у тое, што адбылося і адбываецца з намі.

Людзі затапталі Хрыстовы сляды — і паміж планамі (прыродным, чалавечым і боскім) парушылася сувязь;

людзі затапталі Хрыстовы сляды — і па затаптаных Хрыстовых слядах прыйшлі іншыя істоты, “гора” беларускага народа. Хто яны? Кажучы словамі нашага выдатнага паэта Пімена Панчанкі, гэта — клан, гэта — клас, гэта — гразь.

Прыйшла гразь — і запэцкала прыгожы малюнак “Апокрыфа”. Яна запэцкала і пэцкае нашу спадчыну, нашу культуру, нашу мову, нашу гісторыю; яна запэцкала і пэцкае само найменне беларуса, семантыка якога якраз і змяшчае ў сабе тыя колеры, што выяўлены ў нашым, таксама запэцканым ёю, дзяржаўным сцягу.

Выедзьце за межы Беларусі — і вам сорамна будзе назвацца беларусам. Палякам — не сорамна, латышом — не сорамна, літоўцам — не сорамна, украінцам — не сорамна, і нават рускім — не сорамна, а вось беларусам — сорамна.

Гразь упэўнена, што калі яна запэцкае прыгажосць — яна стане ўладарыць над прыгажосцю;

калі яна запэцкае мудрасць — яна стане ўладарыць над мудрасцю;

калі яна запэцкае годнасць — яна стане ўладарыць над годнасцю.

Але гэта не так. І нават калі яна займее сваіх іерархаў — намеснікаў Хрыстовых, якія ў патрэбны час і ў патрэбным месцы скажуць патрэбныя словы, накшталт: “Няма ўлады не ад Бога”, гэта ўсё роўна не так.

Апостал, што напісаў згаданыя словы ў сваім “Пасланні да рымлянаў”, заклікае падначальвацца вышэйшым уладам, якія ад Бога, а не ад гразі, а гэта не адно і тое ж. Няма і не будзе на гразь Божага благаслаўлення, нават калі яе ўшануюць і ўславяць залежныя ад яе іерархі. Няўжо не відаць: гульня ў цытаванне зусім не бяскрыўдны занятак. Гэтак жа можна ўзаконіць дзеянні рабаўнікоў, гвалтаўнікоў, усемагчымых злачынцаў — хіба яны не маюць рэальнай улады над сваімі ахвярамі?!. І гэтай жа дарогай можна дайсці да ўшанавання і ўслаўлення князя гэтага свету — сатаны, ён жа таксама мае ўладу, і не абы-якую.

Паміж вектарам выслоўя “Няма ўлады не ад Бога” і вектарам выслоўя “Усякая ўлада ад Бога” велізарная і прынцыповая розніца, і не заўважаць яе нельга. Інакш — лішні Ісус Хрыстос, інакш дарэмны ягоны подзвіг!..

Ніхто гэтак не прагне ўлады і не чапляецца за ўладу, як гразь: такая ў яе анталогія. Але ж не вечна доўжыцца гэтаму ганебнаму стану рэчаў, не вечна гразі панаваць, нават калі ашуканы і запалоханы ёю народ усё яшчэ лічыць, што яна ўдзень і ўначы рупіцца пра яго дабрабыт!..

Ды не будзе народ апраўданы толькі за тое, што ён народ, але на любым судзе будуць апраўданы тыя адважныя душы, што не скрывілі сваё сумленне і не схіліліся перад уладай гразі.

Мы выступілі за рамкі “Апокрыфа”, з жытнёва-васільковай стадыі тэзы ўвайшлі ў супярэчлівую стадыю антытэзы, але вяртацца назад не будзем, ступім далей і — зноў увойдзем у “Апокрыф”. Так, ён можа не толькі папярэднічаць гістарычна-грамадскім падзеям, але і наступнічаць — завяршаць іх, быць іхняй сінтэзай.

Мы зноў апынаемся там, дзе ўжо некалі былі, — каля жытнёвага палетка, зноў бачым у атачэнні жытнёвых каласоў васілёк, чуем жнеяў і музыку, сустракаемся з апосталамі і з Ісусам Хрыстом, нам нанава адкрываецца свет працы і прыгажосці, свет, дзе добра быць коласам і шчасна быць васільком, але на гэты раз у ім нешта істотна ўдакладніцца: Хрыстос не будзе ўжо не пазнаны людзьмі і яго сляды не будуць ужо затаптаны (мусіць жа ўрэшце засвойвацца ўрокі гісторыі!). І гэты трэці, заключны, раздзел ужо не будзе а п о к р ы ф а м, а — к а н о н а м.

Як бачым, краса ў “Апокрыфе” займае ўсе планы; у ёй сустракаюцца і з'ядноўваюцца ўсе пачаткі — цялесны, душэўны і духоўны; яны з'ядноўваюцца ў красе настолькі цэласна і непарыўна, што іх нельга разасобіць. Паспрабуйце гэта зрабіць — не ўдасца, бо цела — яно ўжо і душа, а душа — яна ўжо і дух.

Краса — новы стан самой рэчаіснасці; яна больш відушчая, чым рухі, партыі і франты: яны пярэдадзень выніку, а яна дзень і вынік. Таму ў часы грамадскіх разломаў і збояў Максім Багдановіч нам кажа больш, чым шмат якія грамадскія і палітычныя дзеячы са сваімі “правільнымі” заклікамі і высновамі.

Усё, што хоча існаваць, мусіць здзейсніцца: і ў мастацтве, і ў палітыцы. Няздзейсненае выпадае з поля жыццёвай явы, перастае існаваць, якія б выдатныя намеры ні папярэднічалі яму, якія б слушныя “мы казалі” яму ні наступнічалі.

Максім Багдановіч разумеў гэта вельмі добра, не адным літаратарам варта было б прайсці яго творчыя ўрокі.

Наўрад ці я перабольшу, калі скажу, што нашы паэты — той жа Максім Багдановіч, тыя ж Янка Купала і Якуб Колас — для Беларусі зрабілі і робяць больш, чым усе зборныя ўрадавыя каманды; яны для Беларусі больш усенародныя, чым той, хто лічыць сябе “ўсенародна абраным”.

Яны як ніхто другі сапраўдныя прэзідэнты Беларусі; сваю адданасць ёй яны сцвердзілі ўсім сваім жыццём, усёй сваёй творчасцю. Яны тварылі не проста творы, а саму Беларусь, і, па сутнасці, Беларусь як з'ява выявілася, акрэслілася і паўстала найперш дзякуючы ім...

Некалі, гадоў дваццаць таму назад, я напісаў “Паэму вяхі”, прысвечаную Максіму Багдановічу. Не буду яе агучваць, скажу толькі, што ў яе аснову пакладзены вобразы з “Апокрыфа” — жыта і васілька, народа і музыкі, але з другога, “дэфармаванага”, “двойчы апокрыфнага”, раздзела, дзе жыта не з васільком, а васілёк не ў жыцце...

Максім Багдановіч і надалей застаецца вяхою і арыенцірам у беларускіх пошуках Айчыны, у вяртанні Айчыны і вяртанні ў Айчыну. З а п о к р ы ф а — у к а н о н.

“Ты будзеш вечна шукаць свой народ і будзеш знаходзіць...”

*“Беларускі Дайджэст”*

**патрабуе Вашае дапамогі!!!**

## *Нам пішуць... Нас пытаюць...*

Паважаны Рэдактар!

Хто ён гэты чалавек, які сваю краіну і народ так зьневажае і ўсімі сіламі імкнецца прадаць Расеі? Імя гэтага чалавека — А. Лукашэнка, цяперашні прэзыдэнт Беларусі. У кандыдаты на прэзыдэнта Лукашэнку выставіў так званы "Славянскі сабор", які складаецца пераважна з рускіх і іх бальшавіцкіх паплечнікаў, што ўсімі сіламі стараюцца аднавіць Савецкі саюз. Гэтыя людзі ў Лукашэнку бачылі адпаведнага кандыдата без ніякага нацыянальнага пачуцьця і гонару...

Калі ў 1991 годзе Беларусь сталася незалежнай, ужо ў 1994 г. была прынята новая Канстытуцыя і дзяржаўнай мовай сталася беларуская мова, а нацыянальнай сымболікай Пагоня і бел-чырвона-белы сьцяг. Урад пачаў адчыняць беларускія школы, урадаўцы і насельніцтва пачалі ўжываць сваю родную мову — пачалася павольная беларусізацыя.

Гэтае нацыянальнае адраджэньне напалохала Лукашэнку і ягоную каманду. Каб дасягнуць свае скрытае мэты далучэньня Беларусі да Расеі ён пачынае выступаць супраць беларускай мовы, называючы яе простай-мужыцкай. Пачалася агітацыя супраць Канстытуцыі і нашай слаўнай, нацыянальнай, гістарычнай сымболікі... Бясправўны рэфэрэндум у 1996 г. зьмяняе Канстытуцыю з 1994 г. уводзіць двухмоўе і зьмяняе дзяржаўную сымболіку на ранейшую бальшавіцкую. Цяпер Лукашэнка пачаў адкрыта і востра выступаць супраць усяго беларускага, асабліва супраць мовы, бо ён ведае, што мова гэта аснова нацыі. Закрывае беларускія школы, прасьледуе беларускую незалежную прэсу, забараняе дэмакратычныя дэманстрацыі. Урадоўцы пераходзяць на расейскую мову. Тэлевізыя і радыё строга кантралююцца рознымі прахадзімцамі. Настала звычайная дыктатура...

Каб даказаць сваю адданасьць Маскве, Лукашэнка востра выступае супраць НАТО і Эўрапейскага саюзу, а найболь супраць ЗША. Сваёй палітыкай ён адгарадзіў Беларусь ад Захаду і прыблізіў яе бліжэй да Масквы. Падпісаная дэкляранцыя з Ельцыным аб аб'яднаньні Беларусі з Расеяй зьяўляецца бясправўнай паперкай...

Я аднак думаю і спадзяюся, што беларускі народ, прынамсі яго цывілізаваная і культурная частка, прачнецца са сну і не дапусьціць каб Беларусь страціла сваю незалежнасьць...

Жыве Беларусь!
С. Б. (Англія)

### Сьвятая Справа Будзе Жыць

Справа аўтакефаліі Беларускай праваслаўнай царквы заўсёды стаяла косткай у горле нашых ворагаў, і асабліва 'истинноправославного' суседа з Усходу. З часоў зараджэньня беларускай дзяржаўнасьці змаганьне за яе незалежнасьць ішло поруч са змаганьнем за аўтакефалію нашай царквы.

Мяняюцца часы, зьнікаюць народы і дзяржавы, узьнікаюць новыя, але не мяняецца імпэрска-шавіністычная палітыка маскоўскіх кіраўнікоў і царквы, якая служыць ім, а ня Богу. Сёньняшнія мітрапаліты пад аблачэньнем носяць пагоны КГБ. На любое імкненьне беларусаў скарыстаць Богам данае народу права маліцца на роднай мове і мець сваю царкву, а не трымаць на карку намесьніка прызначанага з Масквы, іх адразу сустракала вякамі адладжаная машына расейскага імпэрыялізму. Цяпер у Беларусі з яе прэзыдэнтам, якога так удала працiхнула на пасаду маскоўскае КГБ, прасьледаваць беларускіх патрыётаў таксама лёгка як за савецкіх часоў. А поле дзейнасьці для ўсіх сартоў прайдзісьветаў, авантурыстаў і здраднікаў неабмежаванае, абы толькі пакляліся ў вернасьці прэзыдэнту і душылі ўсё беларускае. У справу ідуць старыя мэтоды: правакацыі, зьбіцьці, запалохваньні і пагрозы...

Бог цярплівы, але справядлівы. Кожны ў рэшце атрымае па сваіх заслугах. А сапраўдных патрыётаў, якія нясуць у сваіх сэрцах веру ў Бога і любоў да свайго народу, ня зломяць і не запалохаюць ніякія рэпрэсіі.

Калегія Япіскапаў Амэрыканскага Сусьветнага Патрыярхату, сьвятары ў Беларусі і я асабіста будзем далей маліцца Богу, каб Ён не пакінуў нас у змаганьні за вольную Беларусь, за незалежную Беларускую Царкву. Будзем маліцца, каб Бог вярнуў веру і розум тым, хто пайшоў служыць нашым ворагам.

Э. Ю. Р.

### НОВАЕ ВЫДАНЬНЕ

Менская гарадзкая рада Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны і Менскі грамадзка-асьветніцкі клюб "Спадчына" распачалі выпуск незалежнай газэты «Голас Беларуса», мэтай якой зьяўляецца барацьба нашага народу за дзяржаўны сувэрэнітэт, захаваньне і разьвіцьцё роднай культуры і мовы, стварэньне нацыя- нальнай сыстэмы адукацыі, рашучае адстойваньне карэнных інтарэсаў Бацькаўшчыны і законных правоў народу быць раўнапраўным складнікам сусьветнай цывілізацыі.

Ужо выдадзена тры нумары газэты, падрыхтаваны чацьверты. Рэдакцыя газэты зьвяртаецца да Вас, шаноўныя суайчыньнікі, з просьбай стаць нашымі падпішчыкамі і тым самым падтрымаць кволыя расткі нашага незалежніцкага друкаванага голасу, абароны карэнных і сьвятых правоў нашага народу. Зараз газэта выдаецца раз на месяц, ёсьць намер выдаваць два, а потым і штотыднёва.

Грамадзкім распаўсюджвальнікам газэты «Голас Беларуса» пагадзілася стаць рэдакцыя часопісу "Плацак",

S. Belaia
5292 Hampton Dr.
North Olmsted, Ohio 44070
USA.

З павагай і спадзяваньнем на Вашую падтрымку Аляксей Саламонаў, Анатоль Белы, Рыгор Барадулін, Анатоль Грыцкевіч і Леанід Лыч.

---

### Лукашэнка — чучала, але ў чыіх руках?..

У гутарцы з іранскімі журналістамі прэзыдэнт Беларусі А. Лукашэнка абнародаваў падсунутую яму думку аб утварэньні анты-амэрыканскага і анты-НАТАўскага блёку дзяржаў, — Расеі, Ірану, Кітая і Індыі.

Ён заклікаў палітыкаў гэтых краін забыцца пра свае непаразуменьні і ўтварыць супраць амэрыканскі аліянс. Лукашэнку падсунулі думку, што Іран у хуткім часе станецца супэрдзяржаваю, і што Беларусь хоча мець з гэтай краінай блізкія сувязі ў многіх накірунках супрацоўніцтва...

Падобныя выказваньні Лукашэнкі для Беларусі вельмі небясьпечныя, хоць усе добра разумеюць, што ён выконвае ролю рупара пэўных расейскіх палітычных сілаў...

* * *

Да якога хамства даходзіць рускае засільле ў Беларусі можа служыць той факт, што тав. Ул. Замяталін, — рускі шавініст і вялікадзяржаўнік, на ўтрыманьні лукашэнкаўскай клікі, адкрыта заяўляе і прыказвае выкінуць з кніг па гісторыі Беларусі нявыгадныя Маскве гістарычныя факты і падзеі. Расейскі прышэлец прыказвае беларускім гісторыкам, як трэба пісаць гісторыю краіны. Беларускія людзі! Дакуль вы будзеце цярпець такую нахабную зьнявагу? Хочацца спадзявацца, што цярпеньне беларускіх патрыётаў-незалежнікаў прыходзіць да канца, і што ў недалёкім часе пачнецца адкрытае змаганьне з рознымі правакатарамі, акупантамі і няпрошанымі прышэльцамі...

* * *

... а ў міжчасе Эўрапейская Рада ў Люксэнбургу, 22-га лютага прагаласавала адмяніць забарону выдачы візаў для лукашэнкаўскай каманды...

Амэрыка пакуль што ў гэтай справе ня выказалася...

### Бел-чырвона-белыя сьцягі над беларускімі гарадамі

У Пухавіцкім раёне былі вывешаныя бел-чырвона-белыя сьцягі. Некалькі такіх сьцягоў вісела на будынках адміністратыўнага цэнтру раёна Мар'інай Горкі, яшчэ некалькі на дрэвах уздоўж дарогі на Чэрвень і побач з саўгасам-тэхнікумам. Мясцовыя жыхары кажуць, што сьцягі правісела да вечара. Падобнае час ад часу здараецца ў многіх кутках Беларусі. Бел-чырвона-белымі штандарамі ўпрыгожваліся Барысаў, Бабруйск, Полацак і іншыя гарады і мястэчкі краіны. Неаднаразова зьяўляліся нацыянальныя сьцягі і на будынках Менску. Напрыклад ноччу 22 студзеня над будынкам Менскага гарвыканкома залунаў бел-чырвона-белы сьцяг. Нягледзячы на міліцэйскую ахову, нехта зьняў з даху чырвона=зялёнае 'знамя' і замацаваў гістарычны бел-чырвона-белы сьцяг. Улады зьбіліся з ног, шукаючы аўтараў гэтых акцыяў, аднак невядомыя патрыёты застаюцца няўлоўнымі. За такія ўчынкі беларускім сьмелым патрыётам належыцца слава і чэсьць!

## НОВЫЯ КНІГІ

У выдавецтве University Press of America выходзіць у сакавіку месяцы ў ангельскай мове кніга др. Вітаўта Кіпеля **«Belarusians in the United States»**.

Кніга (800 старонак, ілюстрацыі) прасочвае гісторыю эміграцыі беларусаў у ЗША ад пэрыяду Вялікага княства Літоўскага да нашага часу. Праца суправаджаецца гістарычным уступам ды аналізам прычынаў эміграцыі розных хранялягічных хваляў. Даецца дэталёвы аналіз арганізацыйнага й рэлігійна-грамадзкага жыцьця беларусаў-амэрыканцаў, разгляд друку, дзейнасьці, зацікаўленьняў беларуска-амэрыканскае грамады.

Шмат увагі прысьвечана дасьледаваньню прычынаў малога веданьня аб беларускай групе шырокага грамадзтва, аналізам перапісаў. У кнізе сотні прозьвішчаў, паказальнікі, багатая бібліяграфія.

Кніга можа быць даведнікам пра Беларускую Амэрыку як амэрыканцам, гэтак і беларусам.

Кошт кнігі ў кнігарнях будзе $56.oo. Калі замаўляць праз БІНіМ — $45.oo. Заказы просім дасылаць на адрас: **BINIM, 230 Springfield Ave., Rutherford, NJ. 07070. USA.**

* * *

... і ўжо выйшла кніга Яўхіма Кіпеля «ЭПІЗОДЫ» — (успаміны, 330 старонак, ілюстрацыі). Кніга ахоплівае падзеі на Беларусі і ў эміграцыі на працягу шмат дзесяцігодзьдзяў. Кніга чытаецца лёгка і займальна. Выпісваць кнігу можна з вышэй паданага адрасу.







Підпісваюць і запіваюць акупацыю Беларусі...

# СУСТРЭЧА НОВАГА ГОДУ Ў СЛАВЕНІІ

Зусім нядаўна я расказвала на старонках газэты аб аздараўленьні беларускіх дзяцей у Славеніі, а таксама аб вядомай нашай зямлячцы Ірэне Каляда, якая была фундатарам гэтай паездкі. Спадарыня Ірэна Каляда-Сьмірноў стрымала сваё слова — яна зноў зрабіла нашым дзецям падарунак, але цяпер ужо калядны, таму што адпачынак адбыўся пад час Калядных сьвятаў. На гэты раз група была поўнасьцю скамплектавана з дзяцей, якія жывуць у невялікім горадзе Мазыры, Гомельскай вобласьці, да гэтага часу захаваўшым нядобрую памяць Чарнобыля. Хлопчыкі і дзяўчынкі ў групе былі выбраныя з тых сем'яў, якія у нас называюцца сацыяльна незабясьпечаныя. Іх выхоўвае альбо адна маці, альбо адна бабуля. Напрыклад, у Р. Бурынскага бацька сядзіць у турме, маці пазбаўлена бацькоўскіх правоў, дзяцей чацьвёра, а выхоўвае адна цётка. У Віталя Флерка бацька памёр, а маці нідзе не працуе. Дарэчы, хлопчыкі вельмі разумныя і выхаваныя. А дзьве сястры Каця і Ліза Калінько, у якіх памерлі бацька і маці, жывуць з бабуляй. Дзяўчынкі таленавітыя, прыгожыя, сьпяваюць, танцуюць, удзельнічаюць у фэстывалях і сьвятах. Саша і Вова Гаркуша, Артур Дворык, Каця Лілюк, астатнія дзеці жывуць у падобных сем'ях...

Тры тыдні прайшлі вельмі хутка, экскурсыі па Славеніі, сустрэчы з дзецьмі ў сярэдняй школе, што знаходзіцца ў мястэчку Харвацін. Аднагодкі хутка пасябравалі, разам сьпявалі беларускія песьні, чыталі беларускія і славенскія вершы. У калядны вечар дзеці звычайна загадваюць жаданьні. Аб новых цацках, сукенках, ці падарожжы да мора. А ў гэтых дзяцей мары крыху іншыя — каб дома не галадаць.

Кіраўнік групы Ніна Віхор — прыроджаная настаўніца. Выкладчыца беларускай мовы і літаратуры, яна любіць свой родны край і гэтаму-ж вучыць дзяцей. І тут яна распрацавала выдатную праграму, з конкурсамі, гульнямі, заняткамі, на якіх многа расказвала аб гісторыі Беларусі, народных традыцыях, фальклоры.

Самым памятным днём было сьвята Каляды. У гэты дзень вечарам дзецям падавалі беларускія стравы, а пасьля пры запаленых сьвечках плылі хвалюючыя гукі песьні "Малітва", якую сьпявалі Надзя і Вольга.

«Божа, адвядзі ад Беларусі здраду, вераломства і вайну... Божа, захіні маю радзіму мудрасьцю, спакоем і цяплом... » І ад гэтых пранікнёных слоў не адны толькі дарослыя ўпотайкі выцiралі сьлёзы...

А Новы год сустрэлі з Дзедам Марозам, ад якога кожны атрымаў цудоўныя падарункі — цукеркі, цацкі, сшыткі. Вадзілі карагоды вакол ёлкі, яе дарэчы ўпрыгожылі самі і ўсім было вельмі весела. Толькі спачатку дзівіліся, што Дзед Мароз размаўляе па беларуску. А потым пазналі ў ім Жору Каляду, які як і мінулы раз быў увесь час побач з дзецьмі.

Вяртаючыся назад дзеці шкадавалі толькі аб адным — як хутка прайшоў час. Думаю, што гэтая паездка застанецца ў іх памяці на ўсё жыцьцё. Як і ў тых дзяцей, што пабывалі летам. А самае галоўнае — пасьля такога адпачынку ў іх менш праблем са здароўем і яны будуць любіць больш сваю радзіму, сваю родную мову. І з гонарам гаварыць: я беларус!..

Вельмі гуманную справу распачала спадарыня Ірэна. Хачу дабавіць, што аздараўленьне дзяцей у такім аспэкце — толькі адзін з накірункаў яе працы па рэалізацыі праграмаў нацыянальнага выхаваньня беларускай моладзі.

Ніна Петухова

Менск, Беларусь.



Група беларускіх дзяцей з Мозыра, якія адпачывалі ў Славеніі на Каляды

# ЦІКАВЫЯ ВЫПІСКІ...

## КУДЫ НІ ГЛЯНЕШ — ЛЮДЗІ, ЛЮДЗІ...

...Як-бы ні раскідала жыцьцё па сьвеце членаў сям'і, яны, калі людзі, звычайна заўсёды стараюцца неяк кантактаваць паміж сабой, дапамагаць адзін аднаму.

А тут цэлы народ падзялілі межамі Польшчы, Летувы, Расеі, Латвіі ды ў выгнаньне выштурхнулі і выштурхоўваюць сваёй палітыкай-эканомікай тысячы яго прадстаўнікоў!

Польшча аднаўляе зараз у Беларусі польскасьць нават там, дзе яе аўтэнтычна і не было. А нашае дзяржаўнае кіраўніцтва сваіх суродзічаў на спрадвечных беларускіх землях успрымае як недарэчнасьць і толькі і чакае, калі яны асымілююцца ў летувісаў, палякаў, рускіх...

Нам ня трэба пераглядаць межы дзяржаў. Але калі ўжо нас без нас шмат разоў ажанілі, дык вызначыцца з патрэбамі захаваньня беларускага этнасу і жорстка дамовіцца з суседзямі на гэты конт мы маем права і абавязак.

Вядома, асноўныя справы зараз можна рабіць праз дачыненьні патрыятычных арганізацыяў Беларусі і адпаведных структураў суседніх краін, эканамічныя ды культурныя кантакты на так званым пабытовым узроўні. Дзяржава, паўтаруся, будзе тут ворагам свайму народу яшчэ шмат часу...

Дарэчы, кажу "беларусы", "беларускі народ" і разумею тут людзей, што адчуваюць сваю адказнасьць як носьбіты беларускай мовы, культуры, памяці (дзеючыя ці патэнцыйныя), што асабісты інтарэс разглядаюць у рэчышчы інтарэсаў беларускай дзяржавы. Альбо нічога не адчуваюць і не разглядаюць, аднак проста жывуць па беларуску, як жылі іх бацькі-дзяды... Пры гэтым знаходзіцца можна і ў Беларусі, і ў Летуве, і ў Аўстраліі...

Астатнія, хто глядзіць на кватэру, якую можна памяняць, змарнаваць, закласьці, хто проста ня любіць, і нават не паважае беларускую зямлю — гэта не народ, а натоўп ці нават быдла: манкурты /жыцьцё для грошай і рэчаў, без сантымэнтаў і радзімы/ і пыса /каўбасна-гарэлачнае існаваньне без памяці і пытаньняў/.

МОВА ЛАЙДАКОЎ

У нашай краіне бальшыню складаюць культурныя людзі. А культурныя людзі разумеюць: у Францыі павінна панаваць французкая культура, французы павінны размаўляць па французку, у Славакіі — славацкая культура і славацкая мова, у маленечкай Эстоніі насуперак прышлай бальшыні — эстонская і па эстонску. І большасьць беларусаў да гэтага таксама ставіцца з разуменьнем, таму мы — нацыя культурных!

Вы запытаеце, а чаму-ж нашыя культурнікі робяць у гэтым пытаньні выключэньне для сваёй Айчыны? Таму, адкажу я, што праполвалі беларускае поле па чорнаму. Засталося на ім не самае лепшае. І вось калі знаходзяцца сярод нас моцныя духам і пачынаюць адраджэньне сваёй беларускай асновы, вяртаньне да каранёў, то асноўная маса выглядае інэртнай глінай, лежбішчам лайдакоў.

Ці трэба іх прымушаць вывучаць тую-ж беларускую мову? Не. Пакуль такая справа — справа гонару і інтэлігентнасьці асобы, а не дзяржаўная палітыка, толькі згубім час на заклікі.

Ёсьць сэнс заключыць умоўнае "пагадненьне" нацыянальна сьвядомых людзей і духоўных лайдакоў. Напрыклад, першыя не прыстаюць з беларусізацыяй да другіх, і тыя да скону дзён карыстаюцца сваёй трасянкай — мовай лайдакоў і манкуртаў, ня ведаюць гісторыю, культуру беларусаў. За тое яны не перашкаджаюць правядзеньню краіны да эўрапейскага выгляду, г. зн. у першую чаргу — да беларускасьці дзяржавы з усімі адпаведнымі атрыбутамі. Не перашкаджаюць таму, што іхнія дзеці будуць атрымоўваць такую беларускую адукацыю, якая выведзе іх са стану манкуртаў ды быдла да агульнаграмадзкага прагрэсу. Не перашкаджаюць фінансаваньню праграмаў і мерапрыемстваў, накіраваных на выкананьне гэтых мэтаў...

Вось толькі адкуль возьмуцца гэтыя праграмы, мерапрыемствы? Хто ў нас не лайдак?

Алесь Катлянік,

ЛіМ

# БНФ не выключае магчымасці вылучэння свайго кандыдата на пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь падчас маючых адбыцца ў маі прэзідэнцкіх выбараў

Беларускі народны фронт будзе актыўна ўдзельнічаць у падрыхтоўцы выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, аб'яўленых Вярхоўным Саветам 13-га склікання. Аб гэтым паведаміў выконваючы абавязкі старшыні БНФ

Лявон Баршчэўскі.

Па яго словах, для работы ў перадвыбарчых акруговых камісіях Народны фронт накіруе 180 сваіх прадстаўнікоў; у Цэнтральную выбарчую камісію дэлегіраваны член БНФ, дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання Барыс Гюнтэр. Лявон Баршчэўскі поўнасцю падтрымлівае рашэнне Вярхоўнага Савета 13-га склікання аб правядзенні прэзідэнцкіх выбараў. "Гэты крок, — лічыць ён, — выратаваў Вярхоўны Савет ад палітычнай смерці. Не зрабіўшы яго, парламент прызнаў бы Канстытуцыю 1994 года страціўшай сілу".

На думку Л.Баршчэўскага, як бы ў гэтай сітуацыі ні вялі сябе ўлады, яны акажуцца ў пройгрышы ў любым выпадку. Калі ва ўладаў "здадуць нервы" і яны "пачнуць рэпрэсіі" супраць арганізатараў выбарчай кампаніі, то гэта наглядна прадэманструе ўсяму свету "антыдэмакратычнасць беларускага рэжыму". Калі ж улады не будуць перашкаджаць, то выбарчая кампанія, па словах Л.Баршчэўскага, будзе "імкліва набіраць абароты" і некаторым прадстаўнікам апазіцыі ўдасца сабраць колькасць подпісаў грамадзян, неабходную для вылучэння сваіх кандыдатур у прэзідэнты.

Акрамя таго, адзначыў Л.Баршчэўскі, выбарчую кампанію можна было б увязаць са зборам подпісаў за незалежнасць Беларусі, што надало б ёй дадатковы імпульс. У выпадку, калі перадвыбарчая кампанія будзе праводзіцца "канстытуцыйна і эфектыўна", БНФ не выключае магчымасці вылучэння на пасаду прэзідэнта свайго кандыдата, заявіў Лявон Баршчэўскі.

Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН.








Сьв. Памяці

## МІКАЛАЙ САПЯЖЫНСКІ



25-га студзеня 1999 году, на 73-цім годзе жыцьця, адыйшоў у вечны супачынак сьв. памяці Мікалай Сапяжынскі.

Нябожчык Мікалай нарадзіўся ў вёсцы Збуч, Гайнаўскага павету. На 12-м годзе жыцьця астаўся сіратою. Хлопчык узяў на свае плечы цяжар гаспадаркі з дапамогай сваёй матулі Настусі. Нягледзячы на цяжкасьці і прыгнёт з боку ўладаў, у калгас не ўступіў, — адстаяў сваю гаспадарку і зямельку, якую моцна любіў. Пасьля пераходу на пэнсію, перадаў гаспадарку свайму сыну Мікалаю. Апошнія 13 год пражываў у ЗША., дзе і памёр.

Сьв. пам. Мікалай быў прыкладным Беларусам і Хрысьціянінам. Любіў свой народ і Бацькаўшчыну. Усё жыцьцё сьпяваў тэнарам у царкоўным хоры.

Ягоным жаданьнем было пахаваць Яго ў роднай зямельцы. Жаданьне Ягонае споўнілася. Пахаваны нябожчык у Беластоку на Дайлідзкіх могілках.

Сьв. памяці Мікалай пакінуў у смутку жонку Надзю, чатырох сыноў з сыновымі і 10 унукаў і ўнучкаў. Няхай будзе Яму пухам родная зямелька.

ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!






Сьв. Памяці

## ПАЎЛО КУЛЕШ

адыйшоў у вечнасьць у лістападзе 1998 г. Сьв. пам. Паўло Кулеш быў ведамым беларускім палітычным і грамадзкім дзеячам, доўгагадовым сябрам Рады БНР. Ён належаў да шматлікіх іншых незалежніцкіх арганізацыяў і быў стойкім змагаром за Аўтакефалію Беларускае Праваслаўнае Царквы.

Сьв. пам. Паўло быў сталым чытачом нашае газэты і ахвярадаўцам у яе выдавецкі фонд.

Выказваем спачуваньні Ўсім Яго родным і блізкім.

ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!

# ЗВАРОТ

## Управы ЗБС "Бацькаўшчына" да грамадзкасьці Беларусі, да беларускіх суполак у замежжы...

На Другім зьезьдзе беларусаў сьвету ў ліпені 1997 г. у кантэксьце асноўнай тэмы форума "Праблема захаваньня беларускай прысутнасьці ў сьвеце" разглядаліся і пытаньні фізычнага захаваньня беларускай нацыі ў садакладзе др. мэдыцынскіх навук Аляксандра Арціішэўскага. У выкананьне прынятых па гэтай праблеме рашэньняў зьезда Управа ЗБС "Бацькаўшчына" нядаўна прыняла пастанову аб стварэньні пры ЗБС новай грамадзкай структуры — Таварыства самадапамогі.

*Асноўныя мэты дзейнасьці:*
* гуртаваньне беларускіх незалежных мэдыкаў, усіх зацікаўленых у справе вырашэньня праблемы фізычнага захаваньня нацыі;
* арганізацыя грамадзкага абмеркаваньня праблемаў захаваньня здароўя нацыі;
* падтрымка незалежных навуковых дасьледаваньняў у галіне фізычнага захаваньня беларускай нацыі, мэдычных праблемаў, звязаных з наступствамі Чарнобыльскай катастрофы;
* асьветніцкая праца, папулярызацыя здаровага ладу жыцьця дзеля захаваньня здароўя беларускага народу;
* спрыяньне фізычнаму выжываньню людзей ва ўмовах складанай палітычнай, эканамічнай, псыхалагічнай сытуацыі ў Беларусі, падтрымка і дапамога ўдзельнікам адраджэнскага руху ва ўмацаваньні здароўя, лячэньні хваробаў і ў іншых жыцьцёвых патрэбах;
* садзеяньне атрыманьню дапамогі дзеля рэалізацыі названых мэтаў ад сусьветнай беларускай супольнасьці і замежных дабрачынных арганізацыяў і іншыя.

У склад Таварыства ўваходзяць мэдычныя работнікі, сябры ЗБС "Бацькаўшчына" і інш. грамадзкіх арганізацыяў. Запрашаем да супрацоўніцтва з Таварыствам усіх, каго цікавяць названыя праблемы, а таксама беларускія суполкі ў замежжы, беларускіх лекараў і навукоўцаў, дабрачынныя арганізацыі.

Просім аказаць падтрымку беларускаму адраджэнскаму руху ў справе вырашэньня жыцьцёвых праблемаў, самазахаваньня. Без усяго гэтага немагчыма будзе далей разьвіваць беларускую справу, змагацца за незалежную Беларусь, за дэмакратызацыю краіны. Многія з удзельнікаў руху паклалі свае здароўе, ці, нават, жыцьцё дзеля Беларусі. Напружаная грамадзкая праца, нэрвовыя стрэсы, пэсымізм, дрэннае харчаваньне, немагчымасьць належнага адпачынку, бясконцыя клопаты пра сям'ю, пра сродкі на існаваньне ўсё часьцей прыводзяць да сумных вынікаў і некаторыя з нас заўчасна адыходзяць у нябыт, хоць яшчэ многае маглі-б зрабіць для Айчыны. Без узаемнай падтрымкі, самадапамогі, без спрыяньня тых нашых суродзічаў, хто знаходзіцца ў лепшых умовах, зьмяніць змрочную сытуацыю да лепшага ня ўдасца. Мы самі сябе павінны ўратоўваць, сваімі ўласнымі сіламі...

Неабходна арганізаваць усебаковую падтрымку навуковым дасьледваньням у галіне наступстваў Чарнобыля, якія ня маюць дзяржаўнай падтрымкі, на якія выдзяляюцца недастатковыя сродкі, але вядзеньне якіх неабходна для Беларусі. Грамадзкасьць павінна ўзяць пад сваю пільную ўвагу праблему фізычнага здароўя людзей у краіне. Падобна, што самаўратаваньне — гэта сёньня адзінае выйсьце для беларусаў, каб застацца фізычна прысутнымі ў сьвеце. Сёньня ёсьць сілы, якія зацікаўлены ў Беларусі без беларусаў і мы не павінны спрыяць ім сваёй абыякавасьцю да гэтага важнейшага жыцьцёвага пытаньня.

Тах, хто падтрымае нас, просім зьвяртацца ў сядзібу ЗБС "Бацькаўшчына":
220050 Мінск
вуль. Рэвалюцыйная, 15
ЗБС "Бацькаўшчына", тэль/факс 76-91-94
(для Таварыства самадапамогі)

Прэзыдэнт ЗБС "Бацькаўшчына" *Радзім Гарэцкі*
Старшыня Рады *Ганна Сурмач*

# Democratic Congress demands Lukashenko's resignation

By Paulyuk BYKOWSKI

Minsk News

On January 29-30, a regular Democratic Congress was held in Minsk with 680 people in attendance, representing leading political parties, labor unions, social organizations and presidium of the 13th parliament. The political parties which took part in the congress agreed to join together in their efforts against the development of dictatorship in Belarus and demanded President Alexander Lukashenko's resignation. Last Saturday, some three thousand people gathered in Minsk to voice their support for the congress, advocating "Respectable life, liberty and independence for Belarus."

Among the guests at the democratic forum were parliamentarians from neighboring states, as well as diplomats accredited in Belarus. In his opening speech, Guennady Karpenko, chair of the Democratic Congress and the National Executive Committee (the country's shadow cabinet), said that many of the participants in the first congress, held in 1996, have gone through "detentions, trials and imprisonment."

In his welcoming address to the participants, the famous Belarusian poet Niel Gilevich offered his vision - shared by many - of the current situation in the country. "There is no reason for us to stop and rejoice. An overwhelming majority of our people are hardly making ends meet... People no longer trust anyone, moral standards are degrading. Most people see no way out in sight, they are puzzled and perplexed." The subject was further elaborated by the speaker of the 13th parliament Semyon Sharetsky, whose speech was several times interrupted by outbursts of applause. According to Sharetsky, Belarus now finds itself in a unique situation, well-suited to peacefully eliminate the dictatorship. "The president is being opposed by the 13th parliament, a legitimate branch of power. People's destitution has reached a critical point. The president's mandate is about to expire... It is the time for all democratic forces to unite and show their will to succeed. We should cast off personal ambitions and join our forces to organize a presidential election. National interests should become a top priority," stated Sharetsky.

Guennady Karpenko read a letter to the congress by the OSCE Monitoring and Advisory Group head Hans-Georg Wieck, that said: "The congress will certainly encourage a strengthening of freedom of expression in the country and reinforce public debates on major issues Belarus faces today." A welcome telegram from the leader of the Polish labor union Solidarnost (solidarity), Marian Kczaklewski, was also publicized. In his report titled "the Belarusian economy and ways of overcoming the crisis," the National Executive Committee chair portrayed a doomsday scenario of the economic meltdown and announced eight self-evident conditions requisite to get the country out of its doldrums. He concluded his speech by saying: "Belarus' present leaders see no ways to end the crisis. They are unable to improve people's lives. The National Executive Committee is ready to assume the task of bringing the country out of the turmoil."

Of special interest can be the report by Mikhail Pastukhov, a former member of the Constitutional Court, in which he gave a legal evaluation of President Alexander Lukashenko's activities since the 1996 constitutional referendum and examined the president's legitimacy after July 20, 1999. Pastukhov concluded that following the above date, the president's mandate should be transferred to the 13th parliament speaker, an assertion that conformed to the general opinion of all congress delegates.

The congress revealed a split between different political parties on consolidation of the opposition, possible joint actions and even the concept of the national idea. Speaking at a press conference, Belarusian Popular Front leader Lyavon Barshcheuski stated that "the opposition is in a transition toward a national liberation movement, whose primary objective is elimination of the totalitarian regime." However, Guennady Karpenko said that the democratic congress would adopt a draft action plan. "Our top objective is the presidential election and we will strive toward that end," said Karpenko.

In a final resolution, adopted at the Congress, its participants demanded President Aleksandr Lukashenko's resignation. In their opinion, President Lukashenko has betrayed the national interests and "driven the country to social tensions, international isolation and poverty". The resolution says it is necessary to "completely reinstate the legitimate governmental entities through conducting free democratic elections on the date stipulated by the Constitution."



# Некаторыя вядомыя расійскія палітыкі вельмі стрымана ставяцца да падпісанай у Маскве Дэкларацыі аб стварэнні саюзнай беларуска-расійскай дзяржавы

Шэраг вядомых расійскіх палітыкаў стрымана паставіліся да падпісанай 25 снежня ў Маскве прэзідэнтамі Расіі і Беларусі дэкларацыі аб стварэнні саюзнай дзяржавы. На думку прэзідэнта Інгушэціі Руслана Аушава, дзве бедныя краіны аб'ядналіся, каб стаць яшчэ больш беднымі і "ганяць галечу з адной дзяржавы ў другую".

Прэзідэнт Татарстана Мінцімер Шайміеў заявіў, што утварэнне новай дзяржавы дададсць шмат праблем самой Расіі, паколькі Татарстан і іншыя рэспублікі "заявяць аб сваім месцы ў гэтай дзяржаве". Згодна з вынікамі праведзенага ў 1992 годзе рэферэндуму, Татарстан — суверэнная дзяржава, суб'ект міжнароднага права, які будуе адносіны з Расіяй на аснове дагавора.

Лідэр руху "Наш дом — Расія" Віктар Чарнамырдзін расцаніў падпісаныя дакументы як "рашучы крок двух прэзідэнтаў". Аднак, па яго словах, "гэта не азначае, што заўтра гэта ўсё адбудзецца". Неабходна зрабіць вельмі сур'ёзныя разлікі адносна таго, што можа даць гэты дагавор расіянам і беларусам. Адказваючы на пытанне аб рэальнасці шансаў Аляксандра Лукашэнкі стаць кандыдатам у прэзідэнты аб'яднанай дзяржавы, Чарнамырдзін заявіў наступнае: "Чаму абавязкова Лукашэнка? Можа, гэта і будзе рэальна калі-небудзь... Жыццё пакажа, калі ўсё гэта адбудзецца. Па крайняй меры, да 2000 года гэта проста нерэальна. Цяпер гэта выключана, гэта проста не атрымаецца".

На думку дэпутата Дзяржаўнай Думы Расіі Мікалая Ганчара, новыя дзяржавы не ствараюцца на аснове ўсенароднага абмеркавання, як гэта прадугледжана ў дэкларацыі, ці на аснове апытанняў грамадскай думкі. Акрамя таго, заявіў Ганчар, не існуе паняцця "саюзная дзяржава", а ёсць толькі канфедэратыўная, федэратыўная і ўнітарная дзяржава. У абедзвюх краінах неабходна правесці два рэферэндумы: кансультацыйны, з пытаннем "Ці хочаце вы жыць у адзінай (або нейкай іншай) дзяржаве з Беларуссю (Расіяй)?", і ратыфіцыруючы, з вынясеннем на яго дагавора аб стварэнні дзяржавы і праекта канстытуцыі. Па словах Ганчара, пры выкананні ўсіх юрыдычных працэдур мінімальны тэрмін на падрыхтоўку рэферэндуму ў Расіі — 250 дзён.

Вельмі рэзка ацаніла падпісаныя ў Маскве дамоўленасці лідэр партыі Дэмакратычны саюз Расіі Валерыя Навадворская: "Калі некаму вельмі хочацца, каб у нас яйкі выдавалі па штуцы ў месяц, як на Кубе, то, мне здаецца, Беларусь ужо туды прыплыла, таму што там дэпутатам выдалі па два дзесяткі, а грамадзянам наогул нічога не выдаюць, яны могуць самі несціся". На думку Навадворскай, пытанне, якое выносіцца на рэферэндум, павінна быць сфармулявана так: "Ці жадаеце вы, каб Расія страціла сваю палітычную незалежнасць і эканамічны патэнцыял, аб'яднаўшыся з таталітарнай, камуністычнай Беларуссю пад кіраўніцтвам апошняй?".

**Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН.**

# АБ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ГОДНАСЬЦІ БЕЛАРУСАЎ.

Ня ведаючы мінуўшчыны, нельга асэнсаваць сучаснасьць, тым больш зазірнуць у будучыню. Але калі гісторыя, шмат разоў перапісаная ва ўгоду тых ці іншых уладароў, яна ня толькі не дапамагае, а наадварот заплутвае, надае магчымасьць розным маніпулятарам абгрунтоўваць свае палітычныя экспэрыменты, тым самым угнойвае поле для новай хлусьні.

Простаму чалавеку цяжка зразумець, дзе-ж яна сапраўдная праўда, і задураны, ён проста махае на ўсё рукой, пачвараючы мяшчанскаму — "ня нашага гэта розуму справа"...

Але ў жыцьці народаў і краін прыходзяць такія хвіліны, калі нельга маўчаць, трэба спыніцца і азірнуцца ня толькі назад, а і навокал. Трэба адшукаць той долевызначальны шлях ад якога залежыць будучыня свая і сваіх нашчадкаў. Бо менавіта, гісторыю ствараюць людзі — гэта аксіома, і толькі з іх маўклівай згоды, альбо абыякавасьці, што яшчэ горш, вырастаюць тыраны, пасьля якіх людзтва адкідваецца назад і доўга залечвае раны.

Мабыць ня знойдзецца ня толькі ў Эўропе, а і ва ўсім сьвеце больш выключнага грамадзтва, чым беларусы. Асабліва з пункту гледжаньня ўсьвядомленьня сваёй нацыянальнай годнасьці. Канчаецца другое тысячагодзьдзе, а мы так ня можам адказаць на пытаньне, пастаўленае беларускім клясыкам яшчэ на пачатку стагодзьдзя "А хто там ідзе...?, а яшчэ больш на пытаньне, — куды ідуць беларусы?

Гісторыя гаворыць, што больш трох стагодзьдзяў беларусы мелі сваю дзяржаву, дзе панавала родная мова, культура, традыцыі. Яны шчыра дзяліліся з усёю Эўропаю сваімі вынаходнікамі і песьнярамі, асьветнікамі і першадрукарамі, здабыткамі навукі і культуры, мелі вайсковы гонар і добра баранілі сваю краіну... Можна дапусьціць, што нашыя продкі па звычцы больш аддавалі другім, чым бралі сабе, не прыдавалі гістарычнага значэньня назве, ня мелі спрадвеку вялікага гонару за прыналежнасьць да свае нацыі і дзейнічалі па прынцыпу, хоць гаршком абзаві, толькі ў печ не стаў. Працяг гэтай традыцыі мы бачым і сёньня. Бо як паясьніць тое, што калі ў 1991 годзе раптоўна, быццам з неба, звалілася нам Незалежнасьць, мы разгубіліся і ня ведалі навошта яна нам і што з ёю рабіць. Патапталіся трохі на месцы, і нібыта сабраліся ісьці сваім шляхам, а потым хутка збочылі і залементавалі, — без Расеі нам труба, мы сувярэнныя, але толькі разам з Расеяй. Няўжо не зразумела, што нам разам аніяк ня можна, мы вельмі рознавялікія і розныя па інтарэсах. Ня можна, прабачце за банальнасьць, зацяжарыць трошкі. Усе краіны былога Саюза пайшлі самастойным шляхам, больш таго, многія за сваю незалежнасьць заплацілі крывёю. Што-ж гэта калі не эмунадэфіцыт нацыянальнай годнасьці і гонару. І зноў палітычныя клоўны выцягаюць і запускаюць у народ патрэбныя факты з гісторыі, ідзе хлусьлівая гульня на славянскія спрадвечныя карані, зноў тусуецца гістарычная калода. На руках Уладароў казыры наконт вечнай і непарушнай дружбы, і як разгуляныя гулякі закладаюць усё што ёсьць і чаго няма, — сувэрэнітэты якія не збыліся. Усім даказваецца, што добрасуседзтва нам мала, трэба разьбіць лоб, каб улезьці ў яшчэ цясьнейшы саюз чым былы СССР. Есьці з аднае міскі, адной лыжкай і адну і тую-ж пахлёбку. Быццам нам адшыбла гістарычную памяць і не прайшло пахмельле, што гэта ўжо ўсё было. Былі і польскімі крэсамі, і паўночна-заходнім краем і БССР-ам, і амаль што ніколі сваёю дзяржаваю. А пра славянскія карані, апрача А. Салжаніцына і яму падобных, ёсьць факты і думкі іншыя. Вучоны Нацыянальнага Ўнівэрсытэту ім. Т. Шэўчэнкі Уладзімір Пятрук у манаграфіі "Страна Великочудия" /выдавецтва «Логос», 1998 г./ даказвае процілеглае. Украінцы, беларусы і рускія — толькі суседзі і ня больш.

Яшчэ адна акалічнасьць, якая нясе катастрафічную для Беларусі небясьпеку. Навукоўцы падлічылі, што калі нічога ня зьменіцца ў лепшы бок і беларуская культура і мова застануцца ў тым-жа пагардлівым стане як сёньня, праз 111 гадоў яна зьнікне з мапы Эўропы як нацыя і краіна. Вось пра што трэба запытацца ў народа на рэфэрэндуме, ці хоча ён гэтага? Саюз зноў адкіне нашу культуру на свае задворкі. Наша культура і мова сёньня ня ў стане бегчы ў адной запрэжцы з расейскаю, зноў-жа гэта розныя вагавыя катэгорыі і аб ніякіх роўных умовах ня можа быць гаворкі.

Вопыт усіх краінаў сьведчыць аб тым, што толькі за рахунак уласных сілаў, за рахунак уласнага духовага ўздыму нацыі можна дасягнуць яе дабрабыту. Дык ці дасьць гэтае аб'яднаньне хоць што небудзь на карысьць гонару нашае нацыі? Упеўнены, што акрамя хулы з боку ўсіх народаў пра нашу няздольнасьць "людзьмі звацца" — нічога.

Можа каму здадуцца гэтыя нататкі пэсымістычнымі, ці больш таго, абражаючымі наш народ. Не, бо няможна прыні́зіць народ і краіну, якая са сваёй зямлі ўзгадавала і дала сьвету дзесяткі імёнаў сваіх геніяў, выжыла і сумела зберагчы сябе праз стагодзьдзі гнёту і бясконцых войнаў. Не і яшчэ раз не, бо мова тут ідзе не пра народ, а пра тую яго абыякавую частку, з маўклівай згоды якое, ці з аднастайным "адабраем", што кіруюць ад яго імя, зноў наступаючы на тыя самыя граблі. І пытаньне сёньня толькі адно ці выкарыстаюць беларусы на гэты раз свой шанц стаць самастойным народам, ці зноў будуць чакаць, а потым зьдзіўляцца, а куды-ж гэта нас прывялі?

З усіх бакоў дзьмуць ветры на Беларусь, кожны вецер гне ў свой бок. Такая ўжо доля быць у цэнтры Эўропы. Дык калі-ж праз стагодзьдзі выстаяў, і сёньня яшчэ гучыць "Жыве Беларусь", няхай ня так чутна і моцна як-бы хацелася, значыць будзе жыць вечна, бо для гэтага не багата і трэба. Раз мы зразумелі што краінамі і ўсім сьветам правіць бізнэс, дык трэба так зрабіць, каб інтарэсам кожнага беларуса была Беларусь, а беларускім інтарэсам быў ня толькі кожны яе жыхар, а і тыя закаханыя ў яе дзеці, што параскіданыя па ўсім сьвеце.

Барыс Цімашэнка,
Львоў, Украіна.

## Далейшыя ахвяраваньні на Беларускі Музэй у Гайнаўцы, Беласточчына...

| | |
|---|---|
| 122. Вольга Грыцук (Канада) | $100.oo |
| 123. Ірэна і Віталь Цярпіцкі | $50.oo |
| 124. Натальля і Анатоль Лук'янкук | $200.oo |
| 125. Тымоты Іванко | $20.oo |
| 126. Валя Яцэвіч | $10.oo |
| 127. а. Міхась Страпко | $20.oo |
| 128. Васіль Мельяновіч | $30.oo |
| 129. Кастусь Калоша | $10.oo |
| 130. А. Сацэвіч | $5.oo |
| 131. А. Яноўскі | $10.oo |
| 132. А. Яраховіч | $10.oo |
| 133. Ф. Паўлавец | $3.oo |
| 134. Янка Ханенка | $50.oo |
| 135. Аддзел БАЗА ў Клію́лендзе | $100.oo |
| 136. Слава Карніловіч | $20.oo |
| 137. Люба Блюзьнюк-Сяргіевіч | $10.oo |
| 138. Янка Каваленка | $10.oo |
| 139. Міхась Калядка | $5.00 |
| 140. Янка Раковіч | $50.oo |
| 141. Базыль Ягоўдзік | $10.oo |
| 142. Марыя Шавейка | $5.oo |
| 143. Ірэна Каляда-Сьміроў | $100.oo |
| 144. Згуртаваньне Беларускіх Жанчын у Кліўлендзе | $50.oo |
| 145. а. Зьміцер Беленькі | $20.oo |
| 146. Таццяна Кананчук | $20.oo |
| 147. Г. Л. Кананчук | $40.oo |
| 148. Вольга МкДорматт | $50.oo |
| 149. Беларуска-Амэрыканскі Грамадзкі Цэнтр у Кліўлендзе | $50.oo |
| 150. Мікола Грэбень, (2-гі раз) | $100.oo |
| 151. Адам Кітольскі | $20.oo |
| 152. Браян Ругоф | $20.oo |
| 153. Баб Вайс | $20.oo |
| 154. Георгі Ігнацеў | $25.oo |
| 155. Якуб Сапяжынскі | $200.oo |
| 156. Др. Язэп Сажыч | $50.oo |
| 157. Соня, Вера і Анна Пруския | $100.oo |
| 158. Мікола Латушкін | $25.oo |
| 159. Др. Уладзімір Набагез | $50.oo |
| 160. Др. Лявон Трусэвіч | $50.oo |

Прадаўжэньне Лісты ахвярадаўцаў у наступных № № газэты... Дзякуем!

Моцна просім нашых чытачоў перасылаць свае ахвяры на музэй на наш адрас на прзьвішча М. Прускі. Калі ласка дапамагайце нам у гэтай акцыі...





***БЕЛАРУСКІЯ ПАТРЫЁТЫ!***

**Дзе-б вы ні былі, змагайцеся заўсёды адважна і бойка за беларускую БЕЛАРУСЬ!**



# 1999





| | Студзень | | | | | Люты | | | | Сакавік | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 4 | 11 | 18 | 25 | 1 | 8 | 15 | 22 | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | Пн |
| Ат | | 5 | 12 | 19 | 26 | 2 | 9 | 16 | 23 | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | Ат |
| Ср | | 6 | 13 | 20 | 27 | 3 | 10 | 17 | 24 | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 | Ср |
| Чц | | **7** | 14 | 21 | 28 | 4 | 11 | 18 | 25 | 4 | 11 | 18 | **25** | | Чц |
| Пт | **1** | 8 | 15 | 22 | 29 | 5 | 12 | 19 | 26 | 5 | 12 | 19 | 26 | | Пт |
| Сб | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | 6 | 13 | 20 | 27 | 6 | 13 | 20 | 27 | | Сб |
| Нд | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 | 7 | 14 | 21 | 28 | 7 | 14 | 21 | 28 | | Нд |



| | Красавік | | | | | Травень | | | | | Чэрвень | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 5 | 12 | 19 | **26** | 31 | 3 | 10 | 17 | 24 | | 7 | 14 | 21 | 28 | Пн |
| Ат | | 6 | 13 | **20** | 27 | | 4 | 11 | 18 | 25 | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | Ат |
| Ср | | 7 | 14 | 21 | 28 | | 5 | 12 | 19 | 26 | 2 | 9 | 16 | **23** | 30 | Ср |
| Чц | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | | 6 | 13 | 20 | 27 | 3 | 10 | 17 | 24 | | Чц |
| Пт | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | | 7 | 14 | 21 | 28 | 4 | 11 | 18 | 25 | | Пт |
| Сб | 3 | 10 | 17 | 24 | | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | 5 | 12 | 19 | 26 | | Сб |
| Нд | **4** | **11** | 18 | 25 | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | 6 | 13 | 20 | 27 | | Нд |



| | Ліпень | | | | | Жнівень | | | | | Верасень | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 5 | 12 | 19 | 26 | 30 | 2 | 9 | 16 | 23 | | 6 | 13 | 20 | 27 | Пн |
| Ат | | 6 | 13 | 20 | 27 | 31 | 3 | 10 | 17 | 24 | | 7 | 14 | 21 | 28 | Ат |
| Ср | | 7 | 14 | 21 | 28 | | 4 | 11 | 18 | 25 | **1** | **8** | 15 | 22 | 29 | Ср |
| Чц | 1 | 8 | **15** | 22 | 29 | | 5 | 12 | 19 | 26 | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | Чц |
| Пт | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | | 6 | 13 | 20 | 27 | 3 | 10 | 17 | 24 | | Пт |
| Сб | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 | | 7 | 14 | 21 | 28 | 4 | 11 | 18 | 25 | | Сб |
| Нд | 4 | 11 | 18 | 25 | | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | 5 | 12 | 19 | 26 | | Нд |



| | Кастрычнік | | | | | Лістапад | | | | | Сьнежань | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 4 | 11 | 18 | 25 | **1** | 8 | 15 | 22 | 29 | | 6 | 13 | 20 | 27 | Пн |
| Ат | | 5 | 12 | 19 | 26 | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | | 7 | 14 | 21 | 28 | Ат |
| Ср | | 6 | 13 | 20 | 27 | 3 | 10 | 17 | 24 | | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | Ср |
| Чц | | 7 | 14 | 21 | 28 | 4 | 11 | 18 | 25 | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | Чц |
| Пт | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | 5 | 12 | 19 | 26 | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 | Пт |
| Сб | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | 6 | 13 | 20 | **27** | | 4 | 11 | 18 | **25** | | Сб |
| Нд | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 | 7 | 14 | 21 | 28 | | 5 | 12 | 19 | 26 | | Нд |

**1.01** – Новы год; **7.01** – Каляды (праваслаўныя); **25.03** – Дзень Незалежнасьці (Угодкі БНР–1918);
**4.04** – Вялікдзень (каталіцкі); **11.04** – Вялікдзень (праваслаўны);
**26.04** – Дзень Смутку (Чарнобыльская катастрофа – 1986);
**20.04** – Радаўніца; **23.06** – Купальле; **15.07** – Дзень Грунвальдскай бітвы (1410);
**1.09** – Дзень беларускай пісьменнасьці;
**8.09** – Дзень беларускай вайсковай славы (бітва пад Воршай – 1514); **1.11** – Дзяды;
**27.11** – Дзень Герояў (Слуцкі збройны чын – 1920); **25.12** – Каляды (каталіцкія).

**Выданьне газэты «Беларускі калекцыянэр»**



**Беларусь!** Наша маці-краіна!
Ты з нас моцных зрабіла людзей.
Не загінулі мы і ня згінем,
покуль Ты нас наперад вядзеш!..

Н. Арсеньнева